№ 63 (3804)

13 жніўня 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***У бліжэйшыя два тыдні можна падпісацца на «Народную Волю», з тым каб атрымліваць газету з 1 верасня. Вас чакаюць на пошце!***

# Ці пойдуць беларускія ўлады на дэмакратызацыю выбараў?

***Падобна на тое, што не пойдуць.***

***На мінулым тыдні на самым высокім узроўні абмяркоўваліся пытанні аб унясенні змяненняў у Выбарчы кодэкс. І што? А нічога — пра сур'ёзныя, лёсавызначальныя рэчы і гаворкі не было.***

***Праходзілі выбары пад дыктоўку "Чырвонага дома" — адмаўляцца ад гэтага яго сённяшнія ўладары і не думаюць.***

***Фарміраваліся выбарчыя камісіі без непасрэднага ўдзелу дэмакратычных партый, апазіцыйных рухаў, аб'яднанняў — так яно, хутчэй за ўсё, і будзе; наконт карэктыў у гэтым плане на нарадзе, як сведчаць афіцыйныя справаздачы, не прагучала ні слова.***

***Гналі людзей на датэрміновае галасаванне — такая практыка не выключаецца і ў далейшым. Хоць тысячы разоў звярталася ўвага на значныя парушэнні заканадаўства менавіта ў гэтыя дні, як і на далёка не параўнальныя лічбы вынікаў датэрміновага галасавання і ў асноўны дзень выбараў.***

***Розныя ўмовы агітацыі былі для "сваіх" і "чужых" — такімі ж яны, мабыць, і застануцца, ніякія перашкоды на шляху дыскрымінацыі не ўводзяцца.***

***І, бадай, самае галоўнае — як "падлічваліся" галасы, так, напэўна, і будуць "падлічвацца" — употайкі ад назіральнікаў, з маўклівай перадачай членамі камісій цыдулак старшыням, без гучнага абвяшчэння...***

***Такія "выбары" ў Беларусі за апошнія амаль 20 гадоў праводзіліся не аднойчы, усё можа паўтарыцца ў наступным годзе і ў больш далёкай перспектыве.***

***Улады лічаць мэтазгодным унесці змены ў парадак фінансавання выбарчай кампаніі з боку кандыдатаў. Калі раней хоць нейкія грошы ім выдзяляліся з бюджэту, то цяпер яны могуць разлічваць толькі на ўласную кішэню і ахвяраванні прыхільнікаў.***

***Адным словам, ствараецца ўражанне, што свабодныя, адкрытыя, дэмакратычныя выбары сённяшнім беларускім уладам не патрэбны.***

***А беларускаму народу?***

***А дэмакратычнаму грамадству?***

***А апазіцыі?***

***Сёння "Народная Воля" пакідае гэтыя пытанні без адказу.***

***Але "Народная Воля" ўпэўнена: рана ці позна на іх будзе адказ.***

***Усяго беларускага народа.***

***Дэмакратычнай грамадскасці Беларусі.***

***Апазіцыі.***

**ЛІЧБЫ СВЕДЧАЦЬ...**

## Чыя хата з краю?



*Надзеі на тое, што беларускія ўлады ўсё-такі адумаюцца і вернуць хаця б тыя выбарчыя правілы, па якіх у 1994 годзе стаў прэзідэнтам Аляксандр Лукашэнка, больш няма. Доўгая праца па "ўдасканаленні Выбарчага кодэкса" скончылася тым, што правілы стануць яшчэ больш жорсткімі для кандыдатаў.*

*Апазіцыйныя палітыкі, аднак, нават з сур'ёзнымі заявамі не выступілі, прабурчэлі толькі нешта накшталт: "Выбараў у Беларусі няма і пры гэтай уладзе не будзе".*

*Чаму такі інфантылізм?*

*Неафіцыйна яны тлумачаць яго тым, што тэма выбараў не цікавая народу.*

*Ці так гэта?*

*Як сведчаць вынікі апошняга апытання НІСЭПД (сацыялагічная служба, зарэгістраваная ў Вільнюсе), характарызуючы сваё стаўленне да палітыкі, толькі 5,4% рэспандэнтаў сказалі: "Маё жыццё залежыць ад палітыкі, і я актыўна ўдзельнічаю ў ёй".*

*23,7% далі іншы адказ: "Маё жыццё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй не ўдзельнічаю, таму што гэта бессэнсоўна".*

*11,1% — "маё жыццё залежыць ад палітыкі, але я ў ёй не ўдзельнічаю, таму што гэта небяспечна".*

*22,5% — "маё жыццё слаба залежыць ад палітыкі".*

*А 34,2% адказалі, што наогул не цікавяцца палітыкай.*

*Такім чынам, атрымліваецца, што большасць беларусаў сапраўды сёння стаіць на добра вядомай пазіцыі: "Мая хата з краю..." А значыць, што заслужылі — тое і маем.*

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

## Марна патрачаны час

Распрацаваныя незалежнымі экспертамі прапановы па зменах Выбарчага кодэкса былі яшчэ ў лютым накіраваны прэзідэнту, ва ўрад, дэпутатам Палаты прадстаўнікоў і членам Савета Рэспублікі, а таксама ў Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў, які адказны за падрыхтоўку законапраекта. Суправаджальны ліст падпісалі партыі "Справядлівы свет", БНФ, "Зялёныя", БСДП (Грамада), рух "За Свабоду", кампанія "Гавары праўду!".

Падпісанты спадзяваліся, што прыняцце прапанаваных змен зробіць выбарчы працэс больш адкрытым, галосным і справядлівым. Навацыі мелі мэтай зрабіць выбарчыя камісіі сапраўды незалежнымі. У прыватнасці, прапаноўвалася абавязкова ўключаць у іх склад прадстаўнікоў палітычных партый, якія бяруць удзел у выбарах. Таксама быў распрацаваны справядлівы механізм адбору ў склад камісій прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян у тых выпадках, калі колькасць заявак на ўключэнне ў камісіі перавышае вызначаную колькасць членаў камісій. Зменамі хацелі забяспечыць права кандыдатаў на вядзенне передвыбарнай агітацыі з дапамогай правядзення масавых мерапрыемстваў. Яшчэ адна мэта паправак — абцяжарыць магчымасці прымусу грамадзян галасаваць датэрмінова ці па месцы знаходжання ў дзень выбараў.

Карацей, распрацоўшчыкі прайшліся па ўсіх "балявых кропках" — тых, за якія беларускія выбары крытыкуюць і ўнутры краіны, і за яе межамі. Але іх праца аказалася марнай.

Старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч** паведаміў "Народнай Волі", што ўсе адказы мелі прыкладна аднолькавы змест: "Вашы прапановы накіраваны ў кампетэнтныя структуры". Вынік — ніводная з паправак не трапіла ў новы законапраект.

*"Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына адпісалася, што прапановы прыняты да ведама. І што далей рабіць? Няма ніякага сэнсу нешта штурмаваць. Відавочна, што гэтая ўлада ніколі не пагодзіцца выпусціць з-пад свайго татальнага кантролю працэс падрыхтоўкі і арганізацыі выбараў, бо ў яе няма ўнутранага пераканання, што яна такім чынам не страціць кантроль над кіраваннем краінай. Таму ўсе змены будуць насіць касметычны, а не істотны характар",* — сказаў Аляксей Янукевіч.

У склад тых, хто паставіў подпісы пад лістом з канкрэтнымі прапановамі беларускім уладам па змене Выбарчага кодэкса не было Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Лідар АГП **Анатоль Лябедзька** патлумачыў — чаму.

*— АГП брала самы непасрэдны і актыўны ўдзел у падрыхтоўцы змен у выбарчае заканадаўства і правапрымяняльную практыку. Але мы насамрэч не звярталіся ні ў ЦВК, ні ў Палату прадстаўнікоў. Звяртацца да той жа Ярмошынай ці да дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, якія ў Еўропе нават не прызнаны паўнавартаснымі дэпутатамі з-за таго, як іх "выбіралі", на наш погляд, няправільна. У іншым выпадку мы б самі прызналі, што і старшыня ЦВК і дэпутаты з'яўляюцца легітымнымі. Ёсць сэнс звяртацца ў прэсу ці ў БДІПЧ АБСЕ, якое займаецца гэтым пытаннем прафесійна. Мы ініцыявалі і распрацоўвалі змены, накіроўвалі прапановы на экспертызы ў розныя аўтарытэтныя структуры. І калі ўжо да каго з беларускай улады звяртацца, дык лепш да самога Аляксандра Лукашэнкі, які фактычна кіруе выбарчым працэсам. І не з просьбай, а з патрабаваннем.*

**Любоў ЛУНЁВА.**

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## Чаму не ўдалося?

Сярод апазіцыйных палітыкаў былі і тыя, хто паставіў на кон і рэпутацыю, і кар'еру, заклікаючы да дыялогу з уладай. Асновай для дыялогу, па гэтай задумцы, павінен быў стаць Выбарчы кодэкс. Але беларускія ўлады, рыхтуючы дакумент, абышліся нават без іх. Чаму?

Пытанне мы адрасавалі аднаму з такіх палітыкаў, былому старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Грамада" **Анатолю Ляўковічу.**

*— Ну, не абавязкова ж персанальна мяне павінны былі паклікаць. Я ж меў на ўвазе не сябе, я ж і без таго мог уладкавацца — не пайсці ў палітыку, а стаць прафесарам, акадэмікам... Не трэба звужаць праблему, бо палітыка не зводзіцца да Лукашэнкі ці Ляўковіча. У любой сітуацыі, калі ёсць суб'екты, якія прэтэндуюць на тое, каб быць палітыкамі, яны павінны імкнуцца да таго, каб у краіне быў нармальны палітычны працэс. Лічу, што ў нашай краіне такога нармальнага палітычнага працэсу пакуль няма, бо ён павінен уключаць як уладу, так і яе апанентаў, як эліту, так і контрэліту. А хто вінаваты ў тым, што такога працэсу няма? Вінаваты і эліта, і контрэліта, і прадстаўнікі ўлады, і апазіцыя.*

*Што рабіць? Трэба знаходзіць дыялог, станавіцца адказнымі за краіну, а не за сваё месца ў палітыцы. Вось прадстаўнікам контрэліты не цікава мэта, будучыня краіны. Яны (не буду казаць хто) самі да мяне падыходзілі і гаварылі: "Анатоль, ну на хрэна табе той дыялог і палітычны працэс? Галоўнае, што мы самі ў палітычным працэсе. Мы ездзім па Страсбургам, мы не зусім адукаваныя, мы не зусім адказныя, мы за плячыма асабліва нічога не маем..." А там і праўда ёсць такія, якія нідзе і не працавалі ніколі...*

*Я ім сказаў: "Я вас вучу, і вашых дзяцей вучыў, бо я ж дацэнт, а не адмарожаны". А ўлада Ляўковіча не паклікала, бо яна ж не ведае, што такому Ляўковічу сказаць. Апазіцыя ж уся разам не прапанавала: "Аляксандр Рыгоравіч, ты прэзідэнт, давай разам пра краіну думаць". Я баюся, што для ўлады самае страшнае, каб пачаўся дыялог. Паколькі я сур'ёзны чалавек, то бачу толькі два шляхі: дыялог ці рэвалюцыя. Я — за дыялог.*

### ДА ВЕДАМА

3 жніўня 2008 года на пазачарговым з'ездзе БСДП (Грамада) па патрабаванні дэлегатаў з'езда былі праведзены выбары кіраўніцтва партыі. Паколькі старшыня Аляксандр Казулін быў за кратамі, яго абавязкі выконваў Анатоль Ляўковіч. Па выніках галасавання ён быў абраны старшынёй. 10 кастрычніка 2010 года старшынёй партыі абралі Анатоля Сідарэвіча, але той з'езд не прызнала Міністэрства юстыцыі і некалькі членаў арганізацыі. Унутрыпартыйны канфлікт быў вынесены на публіку. 5 чэрвеня 2011 года новым кіраўніком партыі на паўторным XIII з'ездзе была абрана Ірына Вештард. Але Мінюст адмовіўся прызнаць легітымнасць з'езда. У той сітуацыі партыю падтрымаў Расійскі сацыял-дэмакратычны саюз моладзі. У верасні 2011 года Анатоль Ляўковіч, які па-ранейшаму лічыць сябе кіраўніком партыі, разам з шасцю аднапартыйцамі пагадзіўся пачаць перамовы з уладамі без вызвалення і рэабілітацыі палітвязняў. Ірына Вештард, абраная кіраўніком большасцю членаў партыі, паведаміла, што Ляўковіч не абмяркоўваў у партыі сваю заяву.

**МНЕНИЯ**

## Почему оппозиция не рвется в бой за Избирательный кодекс?

### Потому что народу это пока не нужно

— Считать голоса начнут только тогда, когда народ этого захочет, — считает юрист **Сергей Альфер**. — У меня нет ощущения, что сегодня для большинства это важно. Разве что где-то на кухнях большинство этого хочет, но своего желания государству никак не показывает. А для изменения ситуации необходимо, чтобы скопилась критическая масса недовольства. Лишь тогда избирательное законодательство будет приведено в соответствие с волей народа.

— Честными и справедливыми выборы делает не закон, а отношение к ним общества: готовность самих избирателей участвовать в контроле над проведением выборов, защищать свой выбор, — считает заместитель председателя гражданской кампании "Говори правду!" **Андрей Дмитриев**. — Мы это видели во многих странах, в том числе и в Беларуси, в начале 1990-х. В СССР была "самая демократичная Конституция", но демократии от этого больше не стало. Поэтому для политиков, для интеллигенции, для гражданских активистов главное сегодня — работа с людьми, а не с бумагами.

— В условиях тоталитарной системы настоящие выборы власти не нужны, — поясняет директор Центра европейской трансформации, политолог **Андрей Егоров**. — Они не нужны ни для ротации элит, поскольку элиты рассчитывают пребывать у власти вечно, ни для выяснения воли народа. Власть можно только заставить изменить ситуацию — общеполитическими условиями, давлением тех сил, которые заинтересованы в демократии, в нормальном функционировании институтов общественного согласия... Для изменений необходима смена общей политической структуры. Например, в свое время в Польше прошел "круглый стол", во время которого были достигнуты договоренности между коммунистами и "Солидарностью" об изменении правил игры. То есть сначала были изменены правила, и лишь потом прошли выборы. Эта модель работает везде. Те же "цветные революции" лишь вынуждали власти менять правила игры. И после этого проводились выборы, на которых побеждали новые лидеры.

**АНОНС**



***Минск гудит. Во второй раз патриарх Кирилл приезжал в столицу Беларуси и во второй раз посещал "епархию" протоиерея Федора Повного. Многим это кажется верным указанием на то, что отец Федор может стать преемником митрополита Филарета. Тем более что именно Федор Повный — тот самый священник, который живет в Дроздах и сопровождает Александра Лукашенко даже в его поездках на отдых.***

***Может ли протоиерей Федор Повный возглавить Белорусский экзархат Русской православной церкви? С этим разбиралась "Народная Воля".***

***Материал «Пять кандидатов» читайте на 2-й стр.***

## Учора Мікалаю Статкевічу споўнілася 57 гадоў

### Гэта ўжо трэці дзень нараджэння, які апазіцыйны палітык адзначае за кратамі.



Мікалай Статкевіч — адзіны кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года, які дагэтуль знаходзіцца ў зняволенні. Аляксандр Лукашэнка неаднаразова заяўляў, што яго палітычныя апаненты, якія знаходзяцца ў зняволенні, могуць быць вызвалены пры ўмове, што напішуць прашэнне аб памілаванні. Паводле інфармацыі жонкі Статкевіча Марыны Адамовіч, яе мужу неаднаразова прапаноўвалі напісаць прашэнне. Пасля адмоў гэта зрабіць ціск на Статкевіча ўзмацняўся.

Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 года Статкевіч заяўляў: яго задача-максімум — "прымусіць уладу лічыць галасы", задача-мінімум — "нанесці такі псіхалагічны і палітычны ўрон уладзе, у выніку якога эканамічныя, а потым палітычныя змены будуць у хуткім часе непазбежныя".

Статкевіч нарадзіўся ў вёсцы Лядна Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае вышэйшае інжынернае зенітнае ракетнае вучылішча супрацьпаветранай абароны (1978). Кандыдат тэхнічных навук (1986). Вучыўся ў дактарантуры (1990—1993). Стваральнік і кіраўнік (1991—1995) грамадскага аб'яднання "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў".

З 1995 года ўзначальваў Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Народная Грамада). У канцы 2004 года ў партыі адбыўся раскол, і ў студзені 2005-га Мінюст прызнаў факт выключэння Статкевіча з шэрагаў партыі. 25 лістапада 2007 года прайшла першая сесія ўстаноўчага з'езда БСДП (Народная Грамада), на якой Статкевіч быў абраны яе лідарам. З тых часоў партыя дзейнічае ў фармаце аргкамітэта.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 ЖНІЎНЯ 2013 г.

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# Пять кандидатов

***Минск гудит. Во второй раз патриарх Кирилл приезжал в столицу Беларуси и во второй раз посещал “епархию” протоиерея Федора Повного. Многим это кажется верным указанием на то, что отец Федор может стать преемником митрополита Филарета. Тем более что именно Федор Повный — тот самый священник, который живет в Дроздах и сопровождает Александра Лукашенко даже в его поездках на отдых.***

*“В кулуарах обсуждаются возможные претенденты на пост нового Патриаршего Экзарха БПЦ. Наиболее вероятной кандидатурой на смену митрополиту Филарету называется настоятель Всехсвятского прихода в Минске Федор Повный”,* — сообщили многие интернет-ресурсы после недавнего приезда патриарха Кирилла в Минск во главе большой делегации руководителей православных церквей мира. Не преминув отметить, что отец Федор в последнее время становится все более заметной фигурой и делает стремительную общественную карьеру. Так, он вошел в состав Общественного совета при МВД Беларуси. На “Славянском базаре” получал специальный диплом “За творческое воплощение идей дружбы народов Беларуси и России” из рук госсекретаря Союзного государства Григория Рапоты. До этого Александр Лукашенко выдвигал Федора Повного в сенаторы, и воплотить эту задумку не удалось только потому, что служителям церкви по церковным правилам запрещено заниматься политикой...

Впрочем, все это мелочи, суета. А вот тот факт, что патриарх Кирилл оба последних визита в Беларусь посещал именно приход отца Федора, будто иных приходов в Минске нет, это уже серьезно, это повод задуматься. Особенно на фоне того, что митрополит Филарет уже не молод и не совсем здоров.

Может ли протоиерей Федор Повный возглавить Белорусский экзархат Русской православной церкви? С этим разбиралась “Народная Воля”.



Пантелеимон, митрополит Красноярский и Ачинский.



Лев — митрополит Новгородский и Старорусский.



Георгий, митрополит Нижегородский и Арзамасский.



Митрополит Волоколамский Иларион.



Архиепископ Новогрудский и Лидский Гурий.



Протоиерей Федор Повный.

## Так он не черный!

Официально тему возможного преемника митрополита Филарета никто в епархии обсуждать не хочет. Говорят, что это некорректно, неправильно и не побожески — при живом владыке обсуждать, кто его сменит. На самом деле подобные рассуждения все-таки лукавство. Тем более что митрополит Филарет очевидно не юнец и действительно имеет проблемы со здоровьем, в чем верующие уже не раз имели несчастье убедиться. С другой стороны, предстоятель БПЦ — это не та должность, на которую может быть назначен кандидат с бухты-барахты, без политических консультаций и учета самых разных нюансов.

Однако любой кандидат должен соответствовать формальностям, церковному закону.

По уставу РПЦ, глава Белорусского экзархата имеет сан митрополита. Причем этот человек по должности будет входить в состав Священного Синода Русской православной церкви в качестве постоянного члена, а значит, должен быть человеком известным, авторитетным и в плане репутации — безукоризненным.

Таким образом, один критерий для отбора потенциального кандидата есть — непосредственно перед назначением он уже должен занимать высокое место в церковной иерархии.

Ступеней иерархии церковного духовенства, как известно, только три: епископы (архиереи), пресвитеры и диаконы. Все остальное — должности на той или иной ступени.

Высшее духовенство — епископы или архиереи — это обязательно лица, принявшие монашество и давшие обет безбрачия. Без этого достичь высоких постов в Церкви невозможно. Причем через ступеньку здесь никто не перепрыгивает. Прежде чем стать патриархом, надо быть митрополитом. Прежде чем стать митрополитом — архиепископом. До этого служить — епископом или архимандритом (этот сан получают настоятели монастырей).

Конечно, у кого-то восхождение по этой лестнице занимает больше времени, у кого-то — меньше. Тем не менее проходят годы и годы.

Федор Повный, которого многие эксперты назвали главным и чуть ли не единственным кандидатом в преемники митрополита Филарета, всего лишь протоиерей. То есть он находится не на высшей, а на средней ступени лестницы церковных санов и принадлежит к “белому духовенству”. Федор Повный женат, имеет дочь. По существующим церковным правилам, уже только это не позволяет ему претендовать на главный пост в БПЦ.

Эксперты некомпетентны и в своих прогнозах сморозили глупость?

Нет, они все равно не сдаются. И говорят, что в связи с особым статусом Федора Повного в белорусской церкви возможно все. Например, что он может развестись с женой, уйти в монашество и очень быстро продвинуться “по служебной лестнице”. Мол, при таком-то покровителе, каким является Александр Лукашенко, многое можно успеть.

## Шерше ля фам

Теоретически действительно возможно все. Но только теоретически и при наличии богатой фантазии. Ведь стать монахом может только человек неженатый. То есть имеющим жену для начала нужно развестись. В то же время священники — не обычные граждане, они развестись не могут. Значит, либо надо ждать, когда жена умрет, либо она тоже должна стать монашкой. Однако в таком деликатном кадровом вопросе ждать, естественно, никто не будет.

Сторонники версии в пользу Повного, тем не менее, вспоминают, что нет правил без исключения, и указывают на то, что Русская православная церковь знала женатых епископов. И даже покойный патриарх Алексий до пострижения в монашество был женат, хотя детей не имел.

Как бы то ни было, но сегодня в составе Священного Синода люди с репутацией в этом смысле безупречной. Ставшие монахами в молодом возрасте, а не тогда, когда замаячила возможность высоких церковных постов.

Например, митрополит Владимир Киевский. Пострижен в монашество в 27 лет. Епископом стал в 31 год. В 38 возведен в сан архиепископа. В 47 — митрополита...

Или митрополит Санкт-Петербургский и Ладожский Владимир. В 33 года стал монахом, епископом Звенигородским. В 37 лет — архиепископом и патриаршим экзархом в Средней Европе. Далее были Якутия, Бурятия, Хабаровск, Владимир, Ростов, Псков.... В 63 года стал митрополитом...

“Женат я не был, — рассказывал владыка Владимир о своей личной жизни. — Поэтому владыка сказал: “Женись, будем рукополагать”. Я сказал, что жениться не хочу, так как у меня был перелом позвоночника, туберкулез кости. Время трудное, я не знал, что меня ожидает. Если буду один, то как-то проживу, а если будет семья, то из-за меня станут страдать люди. Мне тогда было 23 года, и он спросил: “Как же тебя рукополагать таким молодым и неженатым?” Я сказал: “Благословите, буду служить псаломщиком, а там жизнь подскажет”.

Митрополит Крутицкий и Коломенский Ювеналий. В 24 года пострижен в монашество. Митрополит Кишиневский и всея Молдавии Владимир — в 35 лет, митрополит Ташкентский и Узбекистанский, глава Среднеазиатского митрополичьего округа Викентий — в 28 лет ...

Одним словом, в Священном Синоде РПЦ нет никого, кто бы сделал карьеру за год-два, предварительно разведясь с женой. Эти люди шли к своим нынешним должностям и санам годы и годы. И вряд ли согласятся сделать исключение из правил ради какого-то выскочки, пусть даже с большими покровителями за спиной.

А ведь по Уставу РПЦ выбирать настоятеля на белорусскую кафедру будут именно они.

## Пальцем в небо

Кандидатура протоиерея Федора Повного на роль Митрополита Минского и Слуцкого, Патриаршего Экзарха всея Беларуси в свете вышесказанного представляется абсолютно неподходящей. Тут эксперты, кажется, попали пальцем в небо. Тем более что в РПЦ на данный момент имеется семь десятков полноценных митрополитов, многие из которых с радостью сменят свои глухие епархии на европейский Минск. Причем кандидаты есть вполне подходящие, даже соответствующие курсу на “приоритет национальным кадрам”, которого в последние годы старается придерживаться Церковь.

Среди тех, кто носит митру митрополита, на данный момент есть четыре этнических белоруса. Причем один из них, будто по заказу, из правящего в стране могилевского клана — тоже родом с Могилевщины.

Опыт работы в Беларуси, правда, имеет только один из здравствующих митрополитов. Это **Валентин, митрополит Оренбургский и Саракташский** (Тимофей Адамович Мищук), который родился в Бресте в семье рабочих. Некоторое время в начале 1990-х он возглавлял Гродненскую и Волковысскую кафедру.

Правда, митрополит Валентин не молод, ему 73 года. Поэтому вряд ли является оптимальным кандидатом. А вот **Лев, Георгий и Пантелеимон** реально могут претендовать на то, чтобы сменить митрополита Филарета и возглавить белорусский экзархат.

**Лев — митрополит Новгородский и Старорусский**. В миру Церпицкий Николай Львович. Родился 13 апреля 1946 г. в селе Залужье Столбцовского района в семье священника.

В 1969 г. поступил в Ленинградскую духовную семинарию, затем — в Ленинградскую духовную академию. В возрасте 25 лет был пострижен в монашество.

В 1975 г. окончил ЛДА со степенью кандидата богословия. В 1975—1978 гг. проходил стажировку в Григорианском университете в Риме.

8 августа 1978 г. возведен в сан архимандрита, 14 октября назначен настоятелем Крестовоздвиженского собора в Петрозаводске и благочинным храмов Олонецкой епархии, одновременно читал курс лекций по сравнительному богословию в ЛДС.

В октябре 1980 г. назначен настоятелем Воскресенского храма в г.Рабат (Марокко).

С 1982 г. исполнял послушание в Москве в ОВЦС.

С 13 октября 1983 г. — настоятель Спасо-Преображенского собора в г.Выборге.

1 ноября 1987 г. в Троицком соборе Александро-Невской лавры хиротонисан во епископа Ташкентского и Среднеазиатского.

20 июля 1990 г. назначен епископом Новгородским и Старорусским.

25 февраля 1995 г. возведен в сан архиепископа.

Решением Священного Синода от 27—28 декабря 2011 г. назначен главой Новгородской митрополии и утвержден в должности настоятеля (священноархимандрита) Юрьева мужского монастыря г. Великого Новгорода и Иверского Валдайского мужского монастыря на Валдае.

8 января 2012 года возведен в сан митрополита.

Вторая реальная кандидатура — **Георгий, митрополит Нижегородский и Арзамасский.** В миру Василий Тимофеевич Данилов.

Родился 14 августа 1964 г. в Жлобине в многодетной семье. В 1981 году закончил среднюю школу. В 1984—1986 гг. служил в рядах Советской Армии.

В 1986—1990 гг. обучался в Московской духовной семинарии.

В ноябре 1986 г. принят послушником в Троице-Сергиеву лавру. 22 декабря 1989 г. пострижен в монашество с именем Георгий в честь святого великомученика Георгия Победоносца.

В 1990—1995 гг. обучался в Московской духовной академии, которую закончил со степенью кандидата богословия по кафедре истории Русской Церкви. Преподавал общецерковную историю и византологию, в августе 1998 г. был назначен на должность директора Патриаршего архитектурно-реставрационного центра в Троице-Сергиевской лавре.

С 1999 г. проводил обширные работы по реставрации храмов и построек обители и реконструкции монастырской территории (в частности, в ходе работ была предпринята масштабная реставрация лаврской колокольни и воссозданы ее утраченные в 1930-х гг. крупнейшие колокола).

31 мая 2001 г. указом Святейшего Патриарха Алексия II назначен экономом объединенного хозяйства Троице-Сергиевской лавры и Московских духовных школ.

Решением Священного Синода от 26 декабря 2002 г. избран епископом Нижегородским и Арзамасским.

24 февраля 2006 г. возведен в сан архиепископа.

Решением Священного Синода от 15 марта 2012 г. назначен главой новообразованной Нижегородской митрополии и временным управляющим Лысковской епархией.

18 марта 2012 г. возведен в сан митрополита.

Наконец, **Пантелеимон, митрополит Красноярский и Ачинский**. В миру Николай Васильевич Кутовой.

Родился 14 декабря 1955 г. в деревне Грибаны Могилевского района.

С 1976 г. после окончания сельскохозяйственного техникума работал и одновременно учился на заочном отделении Кубанского сельскохозяйственного института. В 1980 г. поступил в Ленинградскую духовную семинарию. В 1987—1993 гг. обучался в Московской духовной академии.

В 1985 г. рукоположен во иерея, в 1986 г. назначен настоятелем Свято-Троицкого собора Вязьмы и благочинным церквей Вяземского округа Смоленской епархии.

В 1987 году пострижен в монашество, в 1988 г. возведен в сан игумена, в 1993 г. возведен в сан архимандрита.

2 мая 1993 г. в Успенском кафедральном соборе Смоленска хиротонисан во епископа Балтийского.

С 28 декабря 2000 г. — епископ Майкопский и Адыгейский.

25 февраля 2005 г. возведен в сан архиепископа.

Решением Священного Синода от 5—6 октября 2011 г. назначен на Красноярскую кафедру. 8 октября 2011 г. возведен в сан митрополита.

Иными словами, выбор есть. И выбор, прямо скажем, не плохой.

## Из молодых ранний

Впрочем, есть еще один митрополит-претендент. Не белорус. Однако он проявляет особенно активный интерес к нашей стране. По крайней мере более частого гостя из Москвы в белорусском экзархате в последние годы не было. Это председатель Отдела внешних церковных связей Московского Патриархата, ректор Общецерковной аспирантуры и докторантуры, председатель Синодальной библейско-богословской комиссии митрополит Волоколамский Иларион.

Белорусские эксперты писали, что митрополит Иларион занимается челночной дипломатией между Минском и Москвой, якобы улаживая будущее назначение все того же Федора Повного. А вот российские эксперты высказывают другую версию. Они считают, что митрополит Иларион, по сути, давно начал знакомство с Беларусью. Известно, правда, только об одной встрече Илариона с Александром Лукашенко, а вот с белорусским епископатом, монастырями, богословами, простыми людьми он знакомится достаточно активно. Так, в Государственном концертном зале Республики Беларусь недавно состоялся концерт духовной музыки, на котором прозвучало произведение митрополита Илариона “Страсти по Матфею” в исполнении пяти хоровых коллективов и Государственного оркестра Беларуси. Автор присутствовал на премьере лично.

5 апреля этого года члены совета Института теологии БГУ единогласно постановили присудить митрополиту Илариону степень почетного доктора “за выдающийся вклад в богословскую науку и образование, укрепление межхристианского и межрелигиозного сотрудничества”. Из приветственных слов выяснилось, что Илариона в Беларуси давно знают “как талантливого богослова и церковного историка, автора монографий, посвященных жизни и учению Отцов Церкви и трудов по догматическому богословию”. Председателю ОВЦС были высказаны слова огромной благодарности “за внимание и духовное покровительство, за наставления о необходимости постоянно помнить о бесценном даре жизни, о величайшем доверии к человеку и его нравственным силам, об идеях толерантности и взаимопонимания, которые по праву являются жизненно необходимыми и спасительными для всех народов”.

Впрочем, интересна была и ответная речь. Московский гость высказал много слов благодарности в адрес руководителя БПЦ и напомнил, что именно митрополит Филарет был его предшественником на нескольких ответственных постах — председателя ОВЦС, председателя Богословской комиссии, председателя редколлегии “Богословских трудов”.

Одним словом, нельзя исключить, что эта цепочка “предшественник—преемник” может быть продолжена. Тем более что Патриарший Экзарх Всея Беларуси встречает молодого коллегу действительно по-особому. Например, в честь приезда митрополита Илариона в Епархиальном управлении от имени Филарета даются торжественные обеды — прекрасный повод для самых разных знакомств в неформальной обстановке.

## Мы давно знакомы

А что же протоиерей Федор Повный? Неужели, будучи в церковной иерархии не самым заметным деятелем, он по чистой случайности все время оказывается в поле зрения патриарха Кирилла?

Есть версия, что Минск имеет своего кандидата в преемники митрополиту Филарету и противится тому, чтобы, когда придет время, нового митрополита прислали из Москвы. И вот за него-то Федор Повный и хлопочет. Правда, близок этот кандидат не столько с отцом Федором, сколько с его папой — архимандритом Феодосием, духовником Жировичского монастыря и Минских духовных школ.

Про трудовые династии, видимо, все слышали, а про церковные как-то не особо принято рассказывать. Тем не менее они есть. Петр Повный постригся в монашество и стал архимандритом Феодосием после трагического убийства жены. Трое его сыновей стали священниками. Это протоиерей Федор Повный, протоиерей Геннадий Повный и протодиакон Павел Повный. Понятно, что высшие церковные посты никому из них не светят, а сам архимандрит Феодосий для карьерного рывка уже слишком стар. Однако все эти годы рядом с архимандритом Феодосием находился **архиепископ Новогрудский и Лидский Гурий, управляющий делами Белорусского экзархата**. Судя по всему, усилия семьи Повных и самого известного ее представителя — отца Федора — направлены на помощь этому активному представителю высшего руководства БПЦ.

Ахиепископ Гурий, в миру Николай Петрович Апалько, родился 30 мая 1956 года в поселке Льнозавод (ныне деревня Коллективная) Полоцкого района Витебской области.

В 1971 году окончил 8 классов и поступил в Витебский станкоинструментальный техникум, который окончил в феврале 1975 года. В 1979 году поступил в Московскую духовную семинарию, а по окончании ее в 1982 году — в Московскую духовную академию. В 1984 году был зачислен в число братии Свято-Троице-Сергиевой Лавры. В июле 1985 года пострижен в монашество с именем Гурий и рукоположен во иеродиакона. 19 декабря 1985 года рукоположен во иеромонаха.

В 1986 году окончил Московскую духовную академию со степенью кандидата богословия и направлен в Минско-Белорусскую епархию, в Жировичский Свято-Успенский монастырь.

В августе 1986 года назначен на должность казначея монастыря, с апреля 1987-го — благочинный монастыря, 4 марта 1990 года возведен в сан архимандрита и назначен наместником Свято-Успенского Жировичского монастыря.

Постановлением Патриарха и Священного Синода от 17 июля 1996 года архимандриту Гурию (Апалько), наместнику Жировичского Свято-Успенского монастыря, определено быть епископом Новогрудским и Лидским.

В феврале 2007 года Святейший Патриарх Московский и всея Руси Алексий II возвел Преосвященнейшего Гурия, епископа Новогрудского и Лидского, в сан архиепископа.

Для того чтобы стать митрополитом, никаких скачков и кульбитов архиепископу Гурию делать не надо. Он уже сейчас находится в одной ступени от сана митрополита.

Таким образом, на сегодняшний день есть пять кандидатов, которые могут стать преемниками митрополита Филарета. Однако Федора Повного, о котором активно пишут белорусские интернет-СМИ, среди этих кандидатов нет.

Кстати, все вышесказанное совсем не значит, что надо готовиться к худшим новостям о здоровье митрополита Филарета. По уставу РПЦ, все архиепископы, достигнувшие 75-летнего возраста, обязаны написать заявление об отставке. Митрополит Филарет такое заявление писал. Отставку не приняли. Однако годы есть годы, и возраст есть возраст. 10 октября исполняется 35 лет его служения на посту Митрополита Минского и Слуцкого. Все чаще в церковный кругах поговаривают, что эта дата и может стать моментом его ухода на покой.

**Елена ДАВЫДОВА.**

ДЫПКУР’ЕР

## Пра што размаўлялі Шарэпка і Купчына?

*12 жніўня ў МЗС Беларусі адбылася сустрэча намесніка міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь **Алены Купчыной** з Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь **Лешэкам Шарэпкам.***

Як паведаміла прэс-служба МЗС, сустрэча адбылася па ініцыятыве польскага боку. У ходзе гутаркі былі абмеркаваны бягучыя пытанні беларуска-польскіх адносін, а таксама іншыя тэмы, якія ўяўляюць узаемную цікавасць.

Чым быў абумоўлены візіт Лешэка Шарэпкі у Міністэрства замежных спраў Беларусі? Якія канкрэтна пытанні ён абмяркоўваў з намеснікам міністра?

У польскай амбасадзе “Народнай Волі” паведамілі, што нічога неардынарнага, ніякага форс-мажору, які стаў бы прычынай такой сустрэчы, не адбылося. “Гэта быў звычайны рабочы дыялог, — сказалі ў дыпмісіі. — Такія сустрэчы — вынікі нармальнай, штодзённай працы. Не мае ніякага значэння, хто ініцыюе такую сустрэчу, гэта адбываецца як бы ў парадку чаргі. Адным словам, гэта сведчанне таго, што ідзе нармальная руцінная праца, не больш за тое”.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

САЛІДАРНАСЦЬ

## Беларусы сабралі 14,5 тысячы долараў на лячэнне доктару за тыдзень

Нядаўна “Народная Воля” распавяла аб гісторыі хваробы гомельскага доктара Сяргея Малашанкі. Урач-траўматолаг упэўнены, што заразіўся гепатытам С прама на працы — у Гомельскай цэнтральнай паліклініцы. 27-гадоваму медыку патрэбна дарагое лячэнне, а купіць неабходныя медпрэпараты з заробку ў 400 долараў ён не можа. Тады Сяргей стварыў сайт у інтэрнэце і звярнуўся да людзей з заклікам аб дапамозе. Літаральна за тыдзень урач здолеў сабраць патрэбную суму.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЧУЛІ?

## Камуналка рэзка падаражэе

### *На 2014 год улады плануюць значны рост тарыфаў ЖКГ.*

Паводле інфармацыі БелаПАН, з такой прапановай выступілі прадстаўнікі эканамічных ведамстваў у рамках работы па падрыхтоўцы прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2014 год.

Памер кампенсацыі насельніцтвам кошту жыллёва-камунальных паслуг (ЖКП) на працягу года плануецца давесці да ўзроўню не менш за 30%.

Мяркуецца, што рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі стане адной з мер па звязванні дадатковых грашовых даходаў насельніцтва. Паводле ацэнак ведамасных спецыялістаў, у 2013 годзе сярэдні заробак складзе 561 долар, а ў 2014-м — вырасце да 625 долараў.

Нагадаем, зацверджаная Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2011—2015 гады прадугледжвае, што ўзровень кампенсацыі насельніцтвам затрат на паслугі жыллёва-камунальнай гаспадаркі ў 2015 годзе складзе не менш за 60%.

Як паведаміў у ліпені міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Аляксандр Шорац** падчас “прамой лініі” ў газеце “Звязда”, у цяперашні час насельніцтва пакрывае 16,3% кошту паслуг, якія аказваюцца жыллёва-камунальнымі арганізацыямі.

Раней Мінфін паведамляў, што па ўсім комплексе жыллёва-камунальных паслуг, уключаючы паслугі энергетыкаў (цеплазабеспячэнне ад цеплакрыніц ДВА “Белэнерга”, а таксама газа- і электразабеспячэнне), насельніцтва ў 2012 годзе кампенсавала каля 22% выдаткаў.

Варта адзначыць, што да цяперашняга часу з’явілася прапанова, якая дазваляе не ўлічваць рост тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі пры разліку інфляцыі, якую эканамічныя ўлады плануюць у 2014 годзе знізіць.

*“Уяўляецца магчымым вынесці змену дадзеных тарыфаў за межы разлічанага органамі статыстыкі індэкса спажывецкіх коштаў, які ўжываецца ў якасці паказчыка інфляцыі”*, — адзначыў першы намеснік дырэктара Навукова-даследчага эканамічнага інстытута (НДЭІ) Мінэканомікі **Віктар Пінігін** у сваім артыкуле, які прысвечаны падрыхтоўцы прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2014 год і апублікаваны ў ліпеньскім нумары “Экономического бюллетеня”, які выдаецца НДЭІ.

Між тым беларускія эканамісты мяркуюць, што выключаць пры разліку індэкса спажывецкіх коштаў дынаміку змены тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі некарэктна.

*“Ва ўсіх краінах лічыцца, што індэкс спажывецкіх коштаў — галоўны паказчык для адлюстравання кошту жыцця насельніцтва, бо ён заснаваны на спажывецкім кошыку. Калі мы з кошыка нешта выключаем, інфляцыя перастае выконваць сваю ключавую функцыю — адлюстроўваць кошт жыцця”*, — мяркуе эканаміст Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра **Зміцер Крук**.

ПРАГНОЗ

## Значнага росту зарплат не чакаецца

Паводле слоў намесніка міністра фінансаў **Максіма Ермаловіча**, у другім паўгоддзі заробкі ў Беларусі калі і вырастуць, то нязначна. Пры гэтым ён адзначыў, што на сёння Міністэрства фінансаў не задавальняюць наяўныя суадносіны паміж зарплатамі ў бюджэтным сектары і прамысловасці.

“Бачна запавольванне тэмпаў росту зарплаты ў прамысловасці. Наша задача — паступова, не аказваючы ціску на ўнутраны попыт, падцягваць узровень зарплат у бюджэтным сектары”, — патлумачыў Ермаловіч.

Ён адзначыў, што суадносіны зарплат у бюджэтным сектары да даходаў у прамысловасці складаюць каля 77—78%. Да канца 2014 года плануецца гэтыя суадносіны давесці да 90%, паведаміў намеснік міністра.

“Аднак для гэтага трэба шмат зрабіць у самім бюджэтным сектары: аптымізаваць колькасць устаноў адукацыі і аховы здароўя, правесці скарачэнне штату бюджэтных арганізацый. Гэта складаная і карпатлівая работа, але яна дазволіць больш хуткімі тэмпамі расці зарплаце ў бюджэтным сектары”, — дадаў Максім Ермаловіч.

ДАРЭЧЫ

## Колькі зарабляем?

Як паведамлялася раней, у студзені—чэрвені 2013 года сярэднямесячная заработная плата работнікаў склала 4,77 млн рублёў (550,5 долара) і павялічылася ў параўнанні з аналагічным перыядам 2012 года на 45,8%. Паводле звестак Мінэканомікі, рост зарплат перавысіў прадугледжаныя прагнозам на 2013 год тэмпы.

Заработная плата работнікаў арганізацый прамысловасці ў чэрвені 2013 года склала 641,1 долара ЗША. У бюджэтных арганізацыях сярэднямесячная заработная плата ў чэрвені склала 3,89 млн рублёў, ці 445 долараў.

АЎТАРЫТЭТНЫ ПОГЛЯД

# Рэпетытар — памочнік настаўніка

Кінуўся ў вочы нумар "Народнай Волі" з тэкстам Алены Малочка "Кто осмелится "стукнуть" на репетитора?". Прачытаў. І адклаў газету, з тым каб пазней звязацца з аўтарам, а дакладней — уступіць з ёю ў палеміку.

А.Малочка піша, што пры высокіх заробках настаўнікаў у школу прыйдуць выдатныя спецыялісты, і тады рэпетытарства як з'ява можа адмерці. Вядома ж, нікому не забаронена марыць і пра "высокія заробкі", і пра "выдатных спецыялістаў", але нават у гэтых варунках патрэба ў рэпетытарах, лічу, не знікне.

Лепшыя з маіх былых студэнтаў сёння працуюць у магілёўскіх школах, гімназіях, ліцэях, маюць высокі аўтарытэт. Яны, і не толькі яны, ёсць тыя самыя выдатныя спецыялісты, аб якіх марыць спадарыня Малочка. Пры ўсіх недарэчнасцях сучаснай сістэмы адукацыі такія спецыялісты, дзякаваць Богу, у беларускай школе не пераводзяцца. Тым не менш, некаторыя вучні гэтых спецыялістаў ходзяць на дадатковыя заняткі да мяне як да рэпетытара.

Чаму? А таму, што, як ні выкручвайся, настаўнік не зможа навучыць кожнага са сваіх вучняў на ўроку да патрэбнага ўзроўню. Перад ім сядзяць два-тры дзясяткі вельмі розных па псіхафізіялагічных якасцях маладых людзей. Для кожнага існуе свой аптымальны тэмп засвойвання інфармацыі. Сангвінікі, халерыкі хутчэй успрымаюць сказанае настаўнікам і гатовы амаль адразу адказваць на пытанні, хай сабе і без гарантыі якасці адказаў. Флегматыкам, меланхолікам трэба пажуючыць над успрынятымі звесткамі, да іх глыбінная сутнасць даходзіць больш надзейна, але і больш марудна. Час урока абмежаваны, і настаўнік не заўсёды можа дачакацца больш-менш грунтоўных адказаў ад марудлівых мысляроў. Таму ён актыўней працуе з тымі, хто ўспрымае хутчэй.

Астатнім, калі яны хочуць засвоіць, напрыклад, матэматыку на ўзроўні, дастатковым для таго, каб стаць студэнтамі, патрабуюцца дадатковыя заняткі або з рэпетытарам, або са сваім настаўнікам. Дадатковая работа з настаўнікам — гэта тое ж, што і работа з рэпетытарам. Але... Рэпетытар працуе не бясплатна. Таму і настаўніку, які працуе дадаткова са сваімі вучнямі, трэба, каб нехта гэтую працу аплачваў. Варыянтаў тут два: гэта або самі вучні (дакладней, іх бацькі), або дзяржава. Але дзяржава аплачвае працу, якая выразна рэгламентуецца (напрыклад, пэўная сума за ўрок пэўнай працягласці). А дадатковая праца рэгламентавацца не можа. Можа быць клас, у якім амаль нікому не патрабуюцца дадатковыя заняткі (напрыклад, па той прычыне, што амаль ніхто не збіраецца стаць студэнтам). А можа быць клас, дзе такая дапамога патрэбна шмат каму. І ўсярэдненая дзяржаўная аплата тут нічога не вырашыць.

А калі сам настаўнік робіцца рэпетытарам для сваіх навучэнцаў, узнікае маральная праблема: маўляў, наўмысна недавучыў, каб за дадатковыя заняткі браць грошы. Таму адзінае выйсце — дадатковая работа з хатнім настаўнікам, рэпетытарам. Натуральна, калі ў бацькоў знойдуцца грошы на гэта. І тут, як звычайна на свабодным рынку, за добрую працу давядзецца добра плаціць. А калі не знойдуцца грошы, прыйдзецца абмяжоўвацца тым, што чалавек засвоіў на ўроках. Магчыма, хопіць і гэтага.

Таму наўрад ці варта марыць пра "адміранне" інстытута рэпетытараў. Лепш давайце прымем гэтую новую з'яву ў сістэме адукацыі і будзем прыстасоўвацца да яе, прызвычайвацца, як ужо прызвычаіліся да недзяржаўных будаўнікоў, да недзяржаўнай медыцыны, да недзяржаўнай адвакатуры ды іншых.

**Міхась БУЛАВАЦКІ,**
**настаўнік вышэйшай катэгорыі,**
**індывідуальны прадпрымальнік**
**у галіне матэматычнай адукацыі.**

*Магілёў.*

### ДАВЕДКА



Міхась Булавацкі — настаўнік вышэйшай катэгорыі. Аўтар двух вучэбных дапаможнікаў па матэматыцы для школьнікаў і некалькіх дзясяткаў метадычных артыкулаў для настаўнікаў на чатырох мовах, кіраўнік праекта "Беларускае пяціборства", удзельнік некалькіх міжнародных канферэнцый па праблемах выкладання матэматыкі.

Вёў урокі матэматыкі ў школах, гімназіях, ліцэях (у тым ліку ў Коласаўскім ліцэі (2004—2007), чытаў матэматычныя курсы і курс методыкі выкладання матэматыкі ў педагагічным інстытуце, Універсітэце імя А.Куляшова.

З 1987-га па 1992 год ажыццяўляў навуковае кіраўніцтва эксперыментальнай працай настаўнікаў матэматыкі г.Мінска па засваенні імі наватарскіх тэхналогій. За свае публікацыі ў цэнтральнай прэсе СССР быў звольнены з інстытута ў 1984 годзе, але змог абараніць сябе і быў адноўлены на працы. Пры чарговым звальненні ў 1998 годзе не стаў абараняцца і пайшоў у "вольнае плаванне". Зараз зарабляе хатнім настаўніцтвам, чытаннем лекцый на курсах павышэння кваліфікацыі настаўнікаў і журналістыкай. Сябра першага Сойму БНФ (1989—1991), першы старшыня абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы (1993—2002), старшыня магілёўскай суполкі Беларускага ПЭН-цэнтра з 2001 года.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## *Чаму без скрухі жыццё ў шаптухі*

**Больш за 150 дактароў былі запрошаны ў Генеральную пракуратуру для размовы. Аказваецца, фармакалагічныя кампаніі падкупляюць чыноўнікаў ад медыцыны, каб яны набывалі тыя ці іншыя лекі.**

*Калі я быў яшчэ малечай,*
*Гісторыю паведаў дзед.*
*І тут яна якраз дарэчы,*
*Усім яе паслухаць след.*
*Калісьці мерлі ўсе, як мухі,*
*Бо медыцыны не было.*
*Лячылі толькі дзве шаптухі —*
*Бабулькі дзве на ўсё сяло.*
*Лячылі ўсякую хваробу*
*(А іх было надзвычай шмат),*
*Шапталі штосьці і на худобу:*
*Кароў, авечак, парасят.*
*Ды не адна з іх не шаптала,*
*Не варажыла задарма:*
*Ці грош які, ці торбу сала*
*Ім несла сельская гурма.*
*Жылі шаптухі (дзіўна, мабыць)*
*У канкурэнтнай барацьбе,*
*Усё рабілі, каб завабіць*
*Іх, "пацыентаў", да сябе.*
*Рэкламавала баба Маня*
*Свой несумненны божы дар:*
*— Табе адразу лепей стане,*
*Як паспытаеш мой адвар.*
*Збіраю травы на балоце,*
*Яны вядомы толькі мне.*
*Шаптуха ж іншая, Аўдоцця,*
*Сваё, як кажуць, людзям гне:*
*— Мае замовы — цуда-сродкі,*
*Яны ад неба і зямлі.*
*Як таямніцу, калісь продкі*
*Замовы мне перадалі.*
*Гадалі ўсе, з якой прычыны,*
*Ды меўся парадокс такі:*
*Да Мані йшлі часцей жанчыны,*
*А да Аўдоцці — мужыкі.*
*Не толькі самі — і гавяду*
*Туды вадзілі з года ў год.*
*Здавалася б, якога ляду?*
*Чаму Аўдоцця ім — як мёд?*
*І розныя хадзілі плёткі,*
*Чаму там "смачна" мужыкам.*

* * *

*Аўдоцця пасля кожнай ходкі*
*Ім налівала па сто грам.*

## *Згадкі-ўспаміны пра ямы і міны*

**У Брэсце безыменны праезд і дзве дарогі паблізу яго ў апошні раз рамантаваліся... 40 год таму, і толькі дзякуючы актывістам кампаніі "Гавары праўду!" гарадскія ўлады прынялі рашэнне пакласці тут асфальт.**

*Быў дзед Хвядот ваякам знаным,*
*Чапляў у святы медалі.*
*— Хадзіў я ў лесе партызанам,*
*Мне іх за гэта і далі.*
*У немцаў-паліцаяў кулю*
*Пусціў я калісь не адну... —*
*Паведаў ён, калі дзядулю*
*Унук распытваў пра вайну.*
*Цяклі, як рэчка, успаміны:*
*— Яшчэ ж, унучак залаты,*
*Мы на дарогах клалі міны,*
*Бывала, нават пад масты...*
*Унук жа — іранічна-"строгі":*
*— А мне раней было няўцям,*
*Чаму такія ў нас дарогі.*
*Зламаць у цемры можна ногі —*
*На тых дарогах столькі ям!*
*Дык ты ж і вінаваты самы,*
*Бо з-за тваіх паганых мін*
*Усе калдобіны і ямы*
*Нам засталіся з тых часін!*
*Пазбавіўся дзядуля мовы,*
*Пачуўшы гэтакі папрок.*
*А потым быў адлуп суровы:*
*— Ты, мусіць, кажаш так знарок,*
*Каб учыніць над дзедам здзекі,*
*Каб мне, старому, дапячы.*
*Дык вось, запомніце навекі,*
*Як ты, такія ж смаркачы:*
*Як на дарозе ці на рэйцы*
*Ад выбуху з'яўляўся хіб,*
*За дзень рамантавалі немцы,*
*Якімі ямы ні былі б.*
*Ад іх цяпер няма і следу!*
*Дык не плявузгай што не след*
*І не рабі папрокі дзеду,*
*Не далучай да вашых бед.*
*Ва ўладзе, мусіць, нейкі злыдзень... —*
*Здагадку выказаў Хвядот. —*
*Што немчура рабіла тыдзень,*
*Улада робіць сорак год...*

РОЗДУМ НАД ПРАБЛЕМАЙ

# Абаранкі на асфальце,
## *або Якая цана лусты хлеба?*

Міжволі ўспамінаю далёкія пасляваенныя гады. Мы, школьнікі малодшага ўзросту, збіралі пасля ўборкі каласкі на калгасным полі. Многа ці мала было тых каласкоў, але на хлебнай ніве не заставалася ні зярнятка. І вельмі правільна рабілі кіраўнікі гаспадарак, што даручалі нам гэтую справу. Так выкарыстоўваліся дадатковыя рэзервы хлебных запасаў, а ў нас, падлеткаў, выхоўвалася святое пачуццё беражлівага стаўлення да хлеба.

Прыгадваю, як жніўеньскім вечарам, калі вялізнае, нібы бохан, сонца кацілася за малінавы гарызонт, спяшаліся мы, басаногія хлапчукі, насустрач сваім маці. І беглі недарэмна. З натружаных руплівых рук атрымлівалі самы дарагі пачастунак — скібу чэрствага хлеба. Не ў карыта, не долу ляцеў акраец, які заставаўся ад абеду, а беражліва загортваўся ў чыстую хусцінку, каб не толькі быць яшчэ карысным, але прыносіць радасць дзятве.

А што мы сёння назіраем? Паўсюдна можна бачыць непаважлівае стаўленне да хлеба. Спашлюся толькі на адзін прыклад.

Неяк ля свайго дома давялося назіраць, як дзве дзяўчынкі гадоў сямі гулялі на асфальце ў класікі, штурхаючы нагой абаранак. За такім заняткам спакойна назірала маладая маці. Калі ж я выказаў сваё абурэнне, жанчына ўсміхнулася і без сораму сказала: "Цяпер жа не пасляваенны час — хлеба вунь колькі..."

Так, сапраўды, мы не адчуваем недахопу ў хлебе і хлебабулачных вырабах. У магазінах дзяржгандлю, прыватных крамах багаты асартымент, і кошт увогуле памяркоўны, хаця цана на хлеб кожны месяц узрастае.

— Мы не задумваемся, колькі поту трэба праліць, каб вырасціць важкі хлебны каравай, — гаворыць былы кіраўнік СПК "Фалько-2005" (цяпер філія агракамбіната "Дзяржынскі") Аляксандр Мікалаевіч Валахановіч, які ўсё сваё свядомае жыццё прысвяціў рабоце на хлебнай ніве.

Кіраўнік-хлебароб, безумоўна, мае рацыю, калі сцвярджае, што парушаны парытэт цэн, у тым ліку і на сельгаспрадукцыю, і ў прыватнасці на набыткі збожжавага цэха. Хіба не злачынна, напрыклад, выкарыстоўваць хлеб на корм хатняй жывёле? Даводзілася не раз назіраць, калі асобныя людзі скупляюць па некалькі боханаў, хаця існуе абмежаванне ў продажы. Але работнікі фаніпальскіх гандлёвых кропак на ўсё гэта глядзяць праз пальцы. Некаторыя гараджане-дачнікі, а таксама вяскоўцы, не сакрэт, трымаюць парсючкоў, свінаматак, іншую жыўнасць з мэтай як мага больш зарабіць на продажы парасят, а ў канчатковым выніку — умацаваць свой матэрыяльны дабрабыт і дапамагчы сваім "чадам" грашыма ў набыцці бытавых рэчаў ці аўтамашыны. У гэтым, напэўна, нічога дрэннага няма, але ж павінны быць альтэрнатыўныя шляхі адкорму — свабодны продаж па памяркоўнай цане камбікорму, мукі, атаварванне імі за здадзенае дзяржаве малако. Але гандлёвыя кропкі не абцяжарваюць сябе завозам неабходнага корму на продаж. Тут яўны недагляд з боку мясцовай улады, сельскіх Саветаў.

Памятаю, як неяк, яшчэ ў школе, настаўнік грамадазнаўства прывёў нам цікавы прыклад: калі звычайную цагліну прывезці з блізкага замежжа ў Мінск, то яна ператворыцца ў залатую. Настаўнік, безумоўна, меў на ўвазе выдаткі. Калі ўдумацца, то ці не такі ж наш з вамі хлеб? Што, скажыце, прымушае сённяшняга жыхара горада выкідваць на сметнік недаедзены акраец хлеба? Можа, упэўненасць ў тым, што на хлебных паліцах магазінаў яго будзе ўдосталь нават у неўраджайныя гады? Дзяржава не пакіне, як кажуць, у бядзе. Але калі паглядзець з іншага боку, то выяўляецца звычайная нявыхаванасць, бескультур'е, адсутнасць павагі і беражлівага стаўлення да хлеба. Вучоныя падлічылі: калі ў сям'і з чатырох чалавек выкінуць у дзень толькі сто грамаў хлеба, то ўсё гэта будзе складаць больш за 30 кілаграмаў. Такія страты кожнай сям'і па ўсёй краіне запатрабуюць дадаткова ўзараць і пасеяць каля мільёна гектараў і намалаціць звыш 600 тысяч тон збожжа.

Хочацца зноў нагадаць сваё пасляваеннае дзяцінства. Нават за ненаўмысна скінуты са стала акраец хлеба маці самым суровым чынам выгаворвала дзецям, нярэдка давала кухталя. Не, яна ніколі не была злоснай ці сквапнай, даравала многія нашы свавольствы, але нядбайнага стаўлення да хлеба не цярпела, гэтак жа як і набегаў на чужыя агароды і сады. Не лішнім, мабыць, будзе сёння ўзяць на ўзбраенне педагагічны вопыт нашых бацькоў у дачыненні да хлеба. У гэтым сэнсе вялікую ролю павінна адыгрываць не толькі сям'я, школа, дзе выхаванне любові да роднага краю, цяжкай працы на хлебнай ніве абавязкова стане прыярытэтам у праграме навучання.

Хлеб — не толькі багацце краіны, гэта моцная, стабільная эканоміка, адзін са шляхоў павышэння жыццёвага ўзроўню людзей. Пра гэта мы ніколі не павінны забываць. А як мяркуюць чытачы "Народнай Волі"? Цікава было б даведацца.

**Анатоль ШАРАЕЎ,**
**ветэран працы.**

*г.Фаніпаль.*



РЕЗОНАНС

## *Старикам везде у нас почет?*

Очень грустно было читать статью Марии Эйсмонт о никому не нужных стариках. Действительно: всю жизнь работали, трудились, а на старости лет оказались ненужными ни государству, ни своим детям. И при этом далеко не всегда дети не хотят за ними ухаживать — просто многие не могут это делать, так как им надо работать и кормить уже своих детей. А на дорогую сиделку просто нет денег.

Так почему нам не перенять опыт цивилизованных стран, где создана сеть интернатов разной степени комфортности? И где пожилой человек выбирает то, что ему по карману. Это вовсе не означает, что все затраты лягут на плечи взрослых детей этих стариков, потому что пенсионеры сами смогут оплачивать свое содержание. Для этого всего лишь нужно платить им достойную пенсию. И вот это у нас главный камень преткновения.

Так может быть, не надо строить помпезные сооружения и проводить дорогие парады? А сначала позаботиться о стариках, которые отдали лучшие свои годы на благо Отчизны? С одной стороны, это будет справедливо, с другой — лучший урок патриотизма. Ведь патриотизм — это когда человек верит в свою страну и твердо знает, что на старости она его не выбросит, как ненужный хлам.

**Розалия РУБИНЧИК.**

*Минск.*

ЗАДУМАЙЦЕСЯ...

## *Чужы «Беларусьфільм»*

Глядзеў фільмы розных краін: французы здымаюць па-французску, італьянцы — па-італьянску, англічане — па-англійску. Еўрапейскае выключэнне, на маю думку, толькі "Беларусьфільм".

Ці будуць паважаць народ, які возіць ёгурты, скуранкі і парасоны з Эсена, халву — з Дубаі і Ізраіля? Які не можа зняць фільм на роднай мове?

Адказ на гэтыя пытанні, здаецца, вядомы ўсім.

**Сяргей ШАМІЁНКА, літаратар.**

*Мінск.*

АБРАКАДАБРА

## *Хлеб за золотые рубли?*

За долгие годы работы юристом, читая юридические документы, часто приходится сталкиваться с тем, что называется "нарочно не придумаешь".

Вот один из последних таких "перлов".

28 июня 2013 года вышло Постановление правления Национального банка Республики Беларусь "О выпуске в обращение памятных монет Национального банка РБ". В нем говорится о золотых и серебряных монетах достоинством в 20, 50, 500 и 1000 рублей в количестве от 500 до 5000 штук каждого номинала.

Особенно впечатляет п.4, где дословно сказано: "Выпущенные в обращение монеты являются законным платежным средством Республики Беларусь и обязательны к приему при всех видах платежей по нарицательной стоимости".

Казалось бы, ничего особенного на первый взгляд нет, если не вдуматься в написанное. Денежные знаки достоинством в 1 и 20 рублей уже изъяты из обращения, а кусок хлеба в рабочей столовой обходится в 500—800 рублей. Следовательно, если исходить из требований п.4, то этот кусок хлеба будет стоить от 10 до 15 золотых монет "БПС — сбербанк. 90 гадоў" и т.д. А если средняя зарплата в стране три миллиона рублей, то сколько золотых получит каждый гражданин РБ этими монетами? Над этой темой можно еще долго смеяться.

Если же серьезно говорить, то это свидетельствует только об одном — само руководство Нацбанка не уверено в стабильности существующей ныне национальной денежной единицы и в расчете на будущие перемены устанавливает такой номинал на выпускаемых золотых и серебряных монетах.

А это значит, что появляющиеся в государственных СМИ сообщения руководства Нацбанка о стабильности рубля — это не что иное, как дезинформация граждан нашей страны.

Если это не так, то предлагаю руководителям Национального банка купить у меня буханку исходя из установленного ими номинала. Можно и серебром.

**Игорь Викторович КАБАЛИК,**
**юрист.**

*Брест.*

ДИСКУССИЯ

# Может, академики спустятся с небес на землю?

Все, кто принял участие в дискуссии на страницах "Народной Воли" по проблемам реформирования науки, я считаю, в основном занимались критикой, а каких-то рациональных предложений не выдвигали. Поэтому складывается впечатление, что налогоплательщикам предлагают хорошо оплачивать академическую науку и ждать, когда яблоки будут падать на головы ученых, тогда и научные результаты появятся.

Авторы ряда статей указывают, что в науке существует "монополизация права на истину", но предпочли эту тему не раскрывать. Поэтому я приведу пример, как ученые изготавливают фальсифицированные экспертные заключения. Так, я однажды присутствовал при оглашении членом-корреспондентом НАН Беларуси В.Кудельским экспертного заключения (в президиуме сидел академик В.Логинов), в котором указывалось, что создание и использование средств интенсификации самоочищающей способности рек за счет возобновляемых источников энергии является вредным для Республики Беларусь, так как в реке может "взмучиваться" вода и погибнет все живое. Неужели люди с академическими титулами не знают, что на реках работают земснаряды и ничто живое не погибает, а интенсификация очищения воды достигается насыщением ее кислородом?

Таким образом, академические эксперты, сами не имеющие соответствующих изобретений, признали предложения в данной области вредными. Правда, в своих мемуарах В.Кудельский признает, что только один раз случайно присутствовал на конференции по русловым процессам, но поскольку слабо соображал в этих вопросах, то с конференции ушел изучать архитектуру г.Владивостока.

Изобретение — мировое достижение, но в статье академики не приводят данные, сколько изобретений дала академическая наука о природопользовании за годы ее существования или за последние 20 лет и сколько изобретений дали другие направления академической науки за тот же период.

Методом написания фальсифицированных экспертных заключений можно перераспределять бюджетное финансирование в науке. За изготовление фальсифицированных экспертных заключений, подрывающих в стране технический прогресс, эксперты не несут уголовной ответственности. По законодательству правоохранительные органы, в отличие от других государств, у нас освобождены от защиты интеллектуальной собственности, с чем я столкнулся лично.

В ходе дискуссии я не заметил публикаций, в которых говорилось бы, сколько людей с учеными степенями и званиями не стали заниматься научными исследованиями, а пошли в чиновники и так далее. Сколько тех, кто в министерствах распределяет деньги на научные исследования, но сам толком ничего не дал науке? Может, за ученые степени и звания надо платить только тем, кто занимается научными исследованиями?

Не указали авторы дискуссии, сколько страна тратит денег на написание диссертаций. Может быть, для экономии бюджетных средств ученые степени надо присуждать за научные достижения, а не за пустые диссертации? Неужели все выдающиеся ученые из школьных учебников по физике писали диссертации, тем более за бюджетные деньги?

Не приводятся данные, сколько белорусских ученых перезащитили свои кандидатские диссертации на докторские в Евросоюзе.

Авторы-академики так и не смогли выявить болезни белорусской науки, а может, умышленно не захотели их обнажать?

"Народная Воля" периодически публикует материалы, в которых ставится под сомнение научное обоснование целесообразности строительства АЭС в Беларуси, а вот те, кто разрабатывал программу "Ядерно-физические технологии для народного хозяйства Беларуси", упорно не желают опровергать опубликованные в газете материалы. НАН — инициатор строительства АЭС, поэтому, может, целесообразно уменьшить финансирование академических структур и направить средства на снижение дефицита бюджета, а не повышать цены на электроэнергию?

Помнится, в 1995 году профессор А.Михалевич утверждал, что гидроэнергетика в наших условиях может дать только 400 миллионов кВт/ч электроэнерии. Через 12 лет эта цифра учеными была удвоена. Но в "Водно-энергетическом кадастре" написано, что водно-энергетический потенциал рек Беларуси превышает 8 миллиардов кВт/ч, причем 4 миллиарда кВт/ч можно получить по технологиям производства электроэнергии середины прошлого века, без существенного затопления территории. "Водно-энергетический кадастр" написали в свое время ученые Института энергетики АН БССР (сейчас Институт тепло- и массообмена), с тех пор за 50 с лишним лет академическая наука ничего не сделала для использования потенциала рек на вторые 4 миллиарда кВт/час.

Где те люди, которые публично утверждали, что стоимость строительства АЭС составит 3—5 миллиардов долларов? Сейчас только на оплату работ "Росатома" требуется примерно 10 миллиардов долларов.

Разве академическая экономическая наука подсчитала, во сколько будет обходиться охрана и противовоздушная оборона АЭС? Когда в 1990-е годы рядом с Воронежской АЭС взорвалась боевая ракета российского самолета, то РФ для защиты АЭС пришлось создавать противовоздушную оборону, которая пригодна для защиты АЭС от ракетно-космической техники, но не для защиты от природных катаклизмов, метеоритов, астероидов и так далее. Отнесли ли эти затраты наши ученые на себестоимость производства электронергии, как и затраты на захоронение радиоактивных отходов и последующий демонтаж АЭС?

Просчитал ли кто-нибудь целесообразность строительства ГЭС в бассейне реки, которая является важнейшей артерией страны?

Нужны ли избыточные мощности по производству электроэнергии, если проблему покрытия пиковых нагрузок можно в Беларуси решать строительством ГЭС?

Достижением современной академической науки считается предложение взимать почасовую оплату за электроэнергию, то есть в часы пик плата за электроэнергию должна быть большей. Ученые еще в прошлом веке просчитали, что проблему покрытия пиковых нагрузок можно решать строительством ГЭС, следовательно, можно не повышать плату за электроэнергию в часы пик и не вызывать недовольство населения повышением цен.

Некоторые адепты современной академической энергетической науки считают, что строить ГЭС экономически нецелесообразно, но при этом не учитывают, что водохранилища строятся для регулирования стока рек, водоснабжения, защиты от наводнений, для рыбоводства и многого другого и одновременно для производства электроэнергии. Считал ли кто, какой ущерб наносят паводки, например, реке Сож из-за того, что не построены ГЭС?

По данным Всемирной организации здравоохранения, до 80 процентов болезней человека связано с качеством воды. Программу "Чистая вода" эксперты изначально запланировали выполнить только к 2020 году, а на строительство АЭС в более сжатые сроки, оказывается, деньги есть. Кто из экспертов академической науки подсчитал, сколько за период строительства АЭС вымрет людей и сколько заболеет от некачественной питьевой воды?

Сейчас зарегистрированы миллионы загрязняющих веществ, а даже ряд районов Минска обеспечивается поверхностной питьевой водой по нескольким десяткам показателей.

Может, белорусские академики все же спустятся с небес на землю и на страницах "Народной Воли" дадут ответы на многие простые вопросы. Те, от решения которых зависит качество нашей сегодняшней и будущей жизни.

**Михаил Иосифович БИРИЦКИЙ, пенсионер, автор 33 изобретений, бывший заведующий лабораторией регулирования водных экосистем ЦНИИ комплексного использования водных ресурсов Минприроды Беларуси.**

ОТПУСКНОЙ СЕЗОН

# Белорусы в Беларуси отдыхают по остаточному принципу

*Лучшие места и время для отдыха отечественные санатории предлагают россиянам.*



***Каждый второй отдыхающий в белорусском санатории — россиянин. В летний сезон российские туристы скупают до 80 процентов путевок в наши здравницы.***

***Почему белорусам нет места в собственных санаториях? Не по карману путевки или просто их там не ждут? Ситуацию оценивает эксперт в области туризма, редактор еженедельника "Туризм и отдых" Лилия КОБЗИК.***

— Наши санатории заточены на работу с российским клиентом, — говорит Лилия Кобзик. — Если посмотреть статистику, она двойственная: с одной стороны, официальная, с другой — инсайдерская, которая получается путем анализа, бесед с директорами санаториев, так называемыми хотельерами. И вот что получается. Официально чиновники успокаивают: мол, не волнуйтесь, мест для белорусов в санаториях хватает, посмотрите на заполняемость санаториев, 50 процентов — это белорусы, остальные 50 процентов — россияне и другие иностранцы. Но тут есть доля лукавства. Потому что в летний сезон 80, а то и 90 процентов постояльцев в белорусских санаториях — это россияне. Белорусы отдыхают по остаточному принципу: что россияне не выкупили, забираем мы. В межсезонье спрос на наши здравницы у россиян падает. Вот тогда собственники санаториев и домов отдыха — Нацбанк, железная дорога, другие предприятия, а также "Белпрофсоюзкурорт" и "Белагроздравница" — имеют возможность дотировать своим сотрудникам путевки. Поэтому с ноября по март, за исключением новогодних праздников, отдыхать в белорусских санаториях могут белорусы. Тогда их там процентов 80, 90. И если выводить среднюю статистику за год, то получается хорошая картинка: белорусов отдыхает в отечественных здравницах не меньше, чем россиян.

**— А что мешает белорусам отдыхать летом? Путевки не по карману, или есть другие причины: нашим санаториям просто выгодно работать с россиянами?**

— Я бы не сказала, что наши санатории не хотят работать с белорусами. У этого вопроса давняя история.

В 2005—2006 годах белорусское санаторное дело переживало жесточайший кризис. Желающих отдыхать не было ни в Беларуси, ни за ее пределами. Персонал зарабатывал копейки, доходило до того, что, например, в Нарочанском крае санаторные учреждение чуть ли не бастовали. Кто помог в этой ситуации белорусским санаториям? Российские туристические фирмы. Подчеркиваю: не туристы, а туристические фирмы. Они узнали, что есть такая ниша — белорусские санатории. О качестве речь тогда не шла, их заинтересовал сам факт того, что Беларусь сумела сохранить советские санатории. В России к тому времени таких здравниц не осталось (да и строилось их в советское время на территории России немного). Российские туристы на оздоровление ехали либо в Украину, либо в Карловы Вары, Словакию, Баден-Баден. Но это достаточно дорогое оздоровление, доступное для определенной публики. И тут турфирмы узнают, что буквально под боком есть база, которая практически пустует.

И российский турбизнес вошел на наш рынок. Российские турфирмы создали в Беларуси определенную санаторную индустрию. Но как? Что они сделали? Они забрали белорусские санатории на квоты. И если сегодня белорусские гостиницы заполняются спонтанно, то места в санаториях расписаны на год. Директор буквально каждого санатория знает, кто и когда у него будет отдыхать. Все разбито на квоты. И эти квоты у российских фирм.

**— То есть, если я правильно понимаю, наши санатории отдают российским фирмам путевки в лучший сезон?**

— Можно сказать, что да. Но это произошло спонтанно. Россияне обеспечили наши санатории клиентами, дали им уверенность в завтрашнем дне, и, конечно, санатории охотно шли на такое сотрудничество. В итоге получилось, что белорусским турфирмам фактически было отказано от дома. Конечно, полностью отказать им не могли, и что-то распределяется и на наш рынок. Но квоты сегодня имеют только несколько крупных белорусских фирм, те, которые согласны работать на условиях, выставленных санаториями.

**— И какие это условия?**

— Загрузка круглый год. Нашим турфирмам обеспечивать ее непросто. Беларусь небольшая страна, и если посчитать места в санаториях на душу населения, то такого соотношения мы не найдем ни в Словакии, ни в Польше. Кроме того, санатории — это все же отдых для определенного клиента. Белорусы побогаче едут к морю, кто победнее вообще никуда не едет и не ищет альтернативы в Беларуси, потому что и этот отдых ему не по карману. Это в России есть разный клиент — тот, кому доступны Мальдивы и Сейшелы, Турция и Греция, Беларусь и Украина.

Но самое неприемлемое условие, выставленное санаториями белорусским турфирмам, — это комиссионный сбор, который они дают от продажи путевок. Для отечественного бизнеса он в разы меньше, чем для российских турфирм! Россиянам наши санатории дают комиссионное вознаграждение 15 процентов, а белорусским турфирмам — только один процент! Быть рентабельной такая продажа не может. Кроме того, согласно нашему законодательству, белорусские турфирмы не имеют права зарабатывать на продаже путевок ни одного рубля, а российские фирмы к стоимости путевки, которую выставляет санаторий, добавляют еще 100% и продают своим клиентам путевки по таким завышенным ценам.

Все это говорит о том, что существует негласное правило не работать с белорусскими турфирмами. И как, спрашивается, белорусский турист будет заходить на отечественный рынок, если белорусский турбизнес исключен из этой схемы?

**— И что, нельзя как-то пересмотреть эти правила? В конце концов, санатории у нас не частные…**

— Во всяком случае, пока все работает, как работает.

Сегодня санатории — это единственный козырь в руках наших чиновников от туриндустрии. Как они любят повторять: "Посмотрите, к нам едут российские туристы! С каждым годом иностранцев в наших санаториях все больше". Отказаться от этого козыря, перейти на другую схему, переключиться на отечественного туриста санатории не могут. И их понять можно. Они опасаются, что, если сделать ставку на наш рынок, на белорусского клиента, прогорит весь рынок.

**— Лилия, а ценовая политика не отпугнет россиян? Ведь для россиян изначально цены на путевки выше, чем для белорусов?**

— Во первых, они выше незначительно, процентов на 20%. Откройте, например, сайт санатория "Радон". Одноместный номер без балкона в день для белоруса стоит там 435 тысяч белорусских рублей, для россиянина — 495 тысяч.

Но определенная опасность есть.

Дело в том, что начиная с 2008 года наши санатории стали повышать цены на путевки в среднем на 30% в год. И в 2011 году мы заговорили о том, что отечественные санатории дорогие, что белорусам за 12 дней отдыха с лечебными процедурами приходится платить 700 долларов, а россиянам — еще больше. Это практически европейские цены.

Безусловно, завышенные цены в здравницах стали отпугивать российских клиентов, а белорусы вообще были просто шокированы ценниками. И сегодня мы наблюдаем картину, когда пик российской радости от совпадения цены/качества в наших санаториях сменился недовольством. Они хотят получать более качественные и разнообразные услуги, хотят иметь лучшие условия проживания. И некоторые санатории уже начинают внедрять spa-лечение, строить новые корпуса с улучшенной планировкой.

**— Т.е. санатории развиваются исходя из запросов российского туриста, россияне формируют лицо нашего туризма? Но правильно ли это?**

— На мой взгляд, нашей санаторной индустрии надо меняться, перестраивать инфраструктуру под разного клиента, не только российского. И Беларусь находится в очень выгодной ситуации: мы можем взять все самое лучшее из опыта европейских стран, которые этот путь уже прошли, и добавить свой собственный опыт. Можно частично пойти по пути литовских санаторных систем. Возьмем, например, Друскининкай. Крупный комплекс, где туристы предлагается все: отдых, лечебные процедуры, spa. Мне кажется, такие комлексы, где замыкается инфраструктура, в белорусских условиях — хорошее решение. Чем себя может развлекать турист в Беларуси? Ничем. Да, россиянам нравится ехать к нам за тишиной, свежим воздухом, лечением. Но эта мода может пройти. А в туристическом комплексе ему будут предлагаться разнообразные программы. И, думаю, к нам потянутся туристы из Европы, Израиля. Но вопрос: сможем ли? Вспомните, как мы сделали Августовский канал? Ориентировались на то, как его использовали поляки. Но на польской стороне жизнь кипит, там и отели, и рестораны с национальной кухней, и яхты, а у нас — тишина. Я проезжала вдоль всего канала: красотища неимоверная и... никого.



**Мария ЭЙСМОНТ.**

РЭГІЁНЫ

## *Кіроўца маршруткі 5 гадоў таму быў пазбаўлены правоў за п'янку*

*Але гэта не перашкаджала яму працаваць і перавозіць пасажыраў*

Невядома, колькі б яшчэ часу жыхар Брэста вазіў пасажыраў, калі б не невялікае ДТЗ. Нядаўна маршрутка, якой ён кіраваў, зачапіла аўтамабіль, які рухаўся побач. На месца ДТЗ выклікалі супрацоўнікаў ДАІ. Тады і высветлілася, што кіроўца маршрутнага таксі пяць гадоў таму быў пазбаўлены права кіраваць транспартнымі сродкамі. Пазбавілі яго правоў за п'янку на тры гады, але потым ён 8 разоў беспаспяхова спрабаваў здаць экзамен у ДАІ, каб вярнуць сабе пасведчанне.

Не выключана, што гаспадар прадпрыемства, у якім працаваў кіроўца, таксама будзе прыцягнуты да адказнасці.

## *Падлеткі скралі аўто, каб спаліць*

Падчас школьных канікул навучэнцы Рэчыцкага тэхнічнага ліцэя скралі тры аўтамабілі.

У іх спісе — ВАЗ-2101, Ford Focus і Mercedes-Benz. Кажуць, што ўвесь працэс авалодання чужой машынай займаў усяго 5 хвілін. Кралі аўтамабілі ноччу з-пад вокнаў іх уладальнікаў, каб пакатацца.

Скрадзеныя машыны будучыя аўтаслесары рамантавалі, калі гэта было патрэбна. А "капейку", якая безнадзейна засела ў лясной канаве, згоншчыкі не прыдумалі нічога лепш, як спаліць.

## *Сын загінуў на дзень народзінаў маці*

Жыхарка Горацкага раёна страціла 55-гадовага сына, які прыехаў пагасціць з Санкт-Пецярбурга, у дзень свайго нараджэння.

Няшчасце адбылося на вачах кампаніі, з якой ён адпачываў на беразе возера недалёка ад роднай вёскі Цімохаўка.

На наступны дзень у іншым возеры паблізу вёскі Еўдакімавічы патануў 53-гадовы магіляўчанін, які прыехаў у госці да пляменніка. Мужчына ўжо выходзіў з вады, калі раптам вырашыў яшчэ раз нырнуць. Гэты нырок стаў фатальным.

Яшчэ адной ахвярай воднай стыхіі ў Магілёўскай вобласці стала жыхарка Бабруйска. Яе цела дасталі з Бярэзіны прама ў адзенні. Кажуць, што за дзень да гэтага яе на беразе бачылі рыбакі.

Істотны факт — кожны з тых, хто загінуў на вадзе, выпіваў перад купаннем.

## *Пажарны апавяшчальнік не дапамог*

У Баранавічах здарыўся пажар, аб якім не паведаміў пажарны апавяшчальнік. У ім проста не было батарэек.

Пра пажар ў адной з кватэр шматпавярховага дома паведамілі ў службу "101" жыхары пад'езда. На шчасце, гаспадар, які быў дома падчас пажару, не атрымаў пашкоджанняў.

Пажар ліквідавалі за пяць хвілін. Хутчэй за ўсё, яго прычына — неасцярожнасць пры курэнні. Агнём былі пашкоджаны пасцельныя прыналежнасці, канапа, закураны столь і сцены.

Пажару не ўдалося пазбегнуць, хоць кватэра абсталявана аўтаномным пажарным апавяшчальнікам. Вось толькі прылада не працуе без батарэек, а на іх гаспадар кватэры вырашыў зэканоміць.

АКТУАЛЬНАЯ ТЭМА

# Калі мы зможам пачаставацца нехімічнай агароднінай і мясам без антыбіётыкаў?

***"Народная Воля" пабывала на ферме, якая збіраецца перайсці на вытворчасць выключна арганічных прадуктаў, каб даведацца, колькі каштуе здароўе і чаму прысмакі з бабулінага гароду нельга лічыць экалагічна чыстымі.***



## Прагнозы не самыя благія, але страшныя

Не так даўно нарадзіўся сямімільярдны жыхар нашай планеты. Калі паказчыкі нараджальнасці не зменяцца, то да 2050 года на Зямлі будзе жыць ужо амаль 12 мільярдаў чалавек. Чым больш нас, тым вастрэй пытанне — што есці? Ужо сёння мы вымушаны апрацоўваць нашы палеткі хімікатамі, напампоўваць жывёл гармонамі росту і антыбіётыкамі. І гэта не лічачы таго, што людзі па ўсім свеце ядуць таматы з генам камбалы (дапамагае захоўваць ад марозаў) ды персікі з генам павука (даўжэй не з'яўляецца цвіль).

Беларусь не выключэнне. Эксперт па экалагічнай сельскай гаспадарцы Цэнтра экалагічных рашэнняў **Наталля Парэчына** прыводзіць нярадасную статыстыку — неабдуманае землекарыстанне прывяло да таго, што дзе-нідзе яшчэ нядаўна ўрадлівыя землі ператвараюцца ў пустыню!



У той жа час у Беларусі набірае моц рух за арганічнае харчаванне. Першыя экафермеры хутка знайшлі на сваю прадукцыю спажыўцоў, якія згодны плаціць любыя грошы за натуральную ежу. І гэта нягледзячы на тое, што **ў сярэднім арганічная прадукцыя на 30% даражэйшая за звычайную**.

## Чарга на арганіку

Цікава, але факт: гаспадаркі, што сертыфікаваны як арганічныя, у Беларусі можна пералічыць па пальцах. Між тым нашы вучоныя вельмі актыўна працуюць у гэтым накірунку, і іх напрацоўкамі карыстаюцца спецыялісты сельскай гаспадаркі з усяго свету.




Паступова да навукоўцаў далучаюцца і фермеры. Фермерская гаспадарка "ДАК" на Міншчыне якраз чакае сертыфікату на зямлю, які дасць магчымасць вырошчваць экалагічна чыстую прадукцыю. Гэтая гаспадарка ўжо даўно вядома ў Беларусі — тут гадуюць коз, якія даюць цудоўнае малако.

*"Пакуль мы атрымліваем сертыфікат арганічнай вытворчасці толькі на зямлю,* — паведаміў гаспадар фермы **Дзмітрый Крылоў**. — *На жывёлагадоўлю сертыфікату пакуль няма, бо мы не ўпэўнены, што зможам пракарміць усіх сваіх жывёл арганічным камбікормам. Як толькі яго будзе дастаткова, праз паўгода пасля падачы заяўкі мы зможам атрымаць сертыфікат на арганічную жывёлагадоўлю".*

Каб атрымаць сертыфікат на зямлю, трэба падаць заяўку і на працягу трох гадоў не выкарыстоўваць на сваёй зямлі хімічныя ўгнаенні і іншыя сродкі. Нават з пустазеллем трэба змагацца ўручную. Ёсць і іншыя праблемы.

"*Мы адразу ж згубім ураджайнасць у два разы"*, — прызнаўся фермер.

Між тым у планах арганізаваць уласны цэх па вытворчасці арганічных прадуктаў з казінага малака. На акупнасць Дзмітрый плануе выйсці ўжо праз 5—6 гадоў пасля адкрыцця цэха. Ці пабачыць беларускі спажывец прадукцыю цэха "ДАК"? Магчыма, і не. Калі попыт будзе нізкім, усе тавары будуць выпраўляцца ў тую ж Маскву.



*"Арганічныя гаспадаркі, безумоўна, куды больш папулярныя ў Еўропе,* — выказаўся эксперт па экалагічнай сертыфікацыі Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Усход—Захад" **Дзмітрый Лутаеў**. — *Але правілы сертыфікацыі па ўсім свеце аднолькавыя. Гаспадарка павінна мець не толькі чыстую зямлю, але і арганічнае насенне. Нават збіраючы ўраджай, фермер мусіць менш карыстацца тэхнікай — каб той жа трактар не дыміў занадта над палеткамі".*

У Беларусі няма сваіх сертыфікацыйных цэнтраў. Трэба запрашаць спецыялістаў з Украіны ці Еўропы, а гэта нятанная справа. Толькі за адзін год сертыфікацыйнага працэсу трэба аддаць тысячу еўра. Між тым фермеры цікавяцца арганічнай вытворчасцю. Калі ў мінулым годзе на сертыфікацыю заяўкі падалі чатыры гаспадаркі, то ў гэтым — у два разы больш. Адзін энтузіяст нават пачаў займацца вытворчасцю арганічнай рыбы. У сваёй гаспадарцы ён збіраецца вырошчваць экалагічна чыстых карпаў, самоў і іншую рыбу.

## На маім агародзе ўсё экалагічна чыстае!

Кожны з нас калі не сам жадае харчавацца экалагічна чыстымі прадуктамі, то хаця б марыць, каб дзеці атрымлівалі самае лепшае. Таму і кормім малых дачнай агароднінай ды вясковым малачком. Між тым **прадукты з нашых вёсак і лецішчаў не з'яўляюцца арганічнымі**. Думаеце, падман? На жаль, не. Каб прадукцыя лічылася арганічнай, зямля больш за тры гады павінна не апрацоўвацца хімікатамі, угнаенні павінны быць выключна натуральнымі, і нават ад хвароб і шкоднікаў свой ураджай апрацоўваць можна толькі чыстымі сродкамі. Выконваеце гэтыя абавязкі? Як ні шкада, але і гэта не гарантыя захавання поўнага цыкла.

У 2008 годзе ў Беларусі здарылася трагедыя. Маленькая дзяўчынка памерла ад атручэння цяжкімі металамі, бо ежу ёй гатавалі на калодзежнай вадзе. Многія калодзежы, што стаяць у вясковых дварах, неглыбокія, менш за 6 метраў. На такую глыбіню пранікаюць хімікаты з палеткаў, фермаў і вытворчасцяў. І нават калі з вадой усё добра, ёсць шанц, што буферная зона паміж вашай градкай і дарогай менш за 10 метраў, а значыць, шкодныя рэчывы з шашы трапляюць наўпрост на ваш стол.

Вось і малако ад каровы не будзе арганічным, калі рагуля дома есць пакупны камбікорм. У арганічных гаспадарках корм вырошчваюць толькі на чыстых тэрыторыях, а саміх жывёл не коляць гармонамі і антыбіётыкамі.

## Зямля даражэй за золата

З 1990-х гадоў арганічная сельская гаспадарка прыйшла на тэрыторыю былога Савецкага Саюза. З-за разрухі, што наступіла пасля развалу савецкай імперыі, многія калгасныя землі не апрацоўваліся, а значыць, не падвяргаліся ўздзеянню хімікатаў. Заходнія інвестары скарысталіся гэтым, і сёння ў суседняй Латвіі 9% землекарыстання — арганічнае. Дарэчы, у бліжэйшы час дэлегацыя нашых чыноўнікаў ад сельскай гаспадаркі збіраецца наведаць латвійскую арганічную гаспадарку, каб на ўласныя вочы пабачыць: экалагічна чыстая вытворчасць можа быць прыбытковай. І нават калгасы могуць знайсці тут сваё месца.

*"Ужо ёсць прыклады таго, як на арганічную вытворчасць пераходзілі буйныя прадпрыемствы,* — распавяла "Народнай Волі" Наталля Парэчына. — *У той жа Латвіі былыя калгасы не без цяжкасцяў, але змаглі пераарыентавацца. Гэта немагчыма без дзяржаўнай падтрымкі, але пазітыўныя моманты тут ёсць".*

Нават у беднай Малдове 3% гаспадарак арганічныя. Краіна паспяхова гандлюе экалагічна чыстымі вінамі і садавінай. Праўда, большасць вырабаў усё ж такі трапляе на сталы ў Еўрасаюзе.

Ці можа Беларусь стаць на шлях пераходу ад традыцыйнай да экалагічна чыстай сельскай гаспадаркі? Несумненна, можа. І такія прыклады ўжо ёсць.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# *11 лет за убийство жены-белоруски*

Нидерландский суд признал голландца Роберта Яна Брекеля виновным в непредумышленном убийстве и сокрытии тела своей жены — белоруски Катерины Хоняк.

Суд над Брекелем начался еще в июне 2011 года. Заседания несколько раз переносились из-за необходимости проведения экспертиз. 4 июля 2013 года обвинитель запросил для Брекеля 12 лет тюрьмы. 9 августа суд вынес приговор: 11лет тюремного заключения.

Катерина Хоняк и Роберт Ян Брекель были знакомы с 2001 года. Нидерландская пресса сообщала, что белоруска приехала в бельгийский Антверпен работать в одном из публичных домов, а Брекель был ее клиентом. Родственники Хоняк утверждали, что она ездила в Антверпен отдыхать. В июле 2007-го они обратились в Московское РУВД Минска с заявлением об исчезновении 26-летней Катерины.

В Нидерландах уголовное дело об исчезновении белоруски было возбуждено в ноябре 2007 года. В феврале 2008 года полиция взломала дверь, чтобы обыскать дом, где проживала семья Брекель. Собаки обнаружили останки женщины, которые были залиты строительной смесью и лежали в ящике в комнате четырехлетней дочери супругов Николь. Произведенное вскрытие подтвердило личность белоруски.

Брекель был арестован по подозрению в убийстве жены в октябре 2010 года по распоряжению прокуратуры на основании результатов расследования дела об убийстве. В ходе следствия он признал, что построил для игр дочери этот деревянный ящик, но отрицал, что убил жену и поместил в него тело.

Эксперты, исследовавшие тело убитой, высказывали различные мнения по поводу причины смерти белоруски. В частности, было озвучено, что смерть могла наступить в результате удушения или вследствие ножевого ранения.

Бельгийские журналисты говорят, что Брекель собирается обжаловать приговор, судебный процесс по его жалобе состоится в этом году. Пока же осужденный останется в тюрьме.

По информации журналистов, несовершеннолетняя дочь Николь сейчас находится у родителей Брекеля.

Следует отметить, что Брекель обвинялся и в распространении детской порнографии. Кроме того, в 2010 году в Бельгии проходил судебный процесс, по которому Брекель с пятью сообщниками проходил как подозреваемый в нелегальном провозе в страну трех килограммов кокаина. По этому делу Брекель был оправдан.



**А как красиво все начиналось.**

**Захар ЩЕРБАКОВ.**

ЧУЛІ?

## Пенсіянераў больш, чым моладзі

### *2 мільёны 239 тысяч беларусаў — гэта маладыя людзі ва ўзросце ад 14 да 31 года.*

12 жніўня ў свеце паводле рашэння Генасамблеі ААН адзначаўся Міжнародны дзень моладзі. З гэтай нагоды Нацыянальны статыстычны камітэт агучыў апошнія даныя пра маладых людзей ва ўзросце ад 14 да 31 года ў нашай краіне. На 1 студзеня 2013 года іх 2 мільёны 239 тысяч маладых грамадзян, альбо 23,7% ад усяго насельніцтва

Дарэчы, пенсіянераў у Беларусі больш. На 1 студзеня 2013 года ў Беларусі пражывала 2 млн 512,2 тыс. чалавек пенсіённага ўзросту, і гэта ўжо амаль 27% насельніцтва.

Што тычыцца моладзі, то каля 38%, альбо больш за 847 тысяч чалавек ад агульнай колькасці моладзі, жывуць у Мінску і Мінскай вобласці. Найменш маладых людзей у Магілёўскай і Гродзенскай абласцях — менш за 11%. Пераважная частка моладзі жыве ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу — 82,7%. Колькасць вясковай моладзі за апошнія восем гадоў скарацілася амаль на 167 тысяч чалавек, альбо на 30%.

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

## Светлана Кузнецова — «Миссис Вселенная — 2013»

Международный конкурс "Миссис Вселенная — 2013" в этом году проходил на острове Аруба, расположенном на юге Карибского моря недалеко от Венесуэлы. Конкурс "Миссис Вселенная" аналогичен шоу "Мисс Мира" и "Мисс Вселенная". Но его участницы должны быть замужем и могут иметь детей.



В этом году было решено определить двух победительниц. Одну — по мнению публики и по результатам голосования, вторую — по мнению профессионального жюри, которое ежедневно скрупулезно оценивало участниц.

Белоруску Светлану Кузнецову "Миссис Вселенная — 2013" выбрало жюри. Представительница Малайзии также стала победительницей этого конкурса по мнению публики и результатам голосования.

Светлана Кузнецова — победительница первого национального конкурса "Мисс Беларусь — 98". Она работает в сфере образования и фэшн-индустрии, занимается благотворительностью. У Светланы богатый опыт участия в международных конкурсах — была финалисткой конкурса "Мисс Европа — 99", участницей — "Мисс Мира — 2000", завоевала титул "Missis Beauty Millenium International — 2012".

БУДЬ НАЧЕКУ!

## Врачи предупреждают о нашествии клещей

Жители Минской, Гомельской и Брестской областей сейчас находятся в эпицентре клещевого нашествия.

Один из пиков активности опасных насекомых приходится как раз на последний летний месяц. Спад активности клещей, как ожидают медики, начнется в сентябре.

К слову, от укусов клещей в этом году в Беларуси уже пострадало семь с половиной тысяч человек, выявлено 174 случая заболевания Лайм-боррелиозом и 21— клещевым энцефалитом.

## Змеи покусали 11 минчан

С начала лета в столичную Больницу скорой медицинской помощи по поводу укуса змеи обратились 11 человек.

По словам заведующего токсикологическим отделением больницы **Андрея Богдана,** для пострадавших все закончилось благополучно благодаря своевременному обращению за помощью, которой ни в коем случае нельзя пренебрегать.

*"Тяжесть состояния одной из пациенток, которая поступила к нам с укусом змеи, была обусловлена тем, что женщина поздно обратилась за помощью, так как находилась за пределами Беларуси. Змея укусила ее в ногу во время одной из остановок по пути на родину из Украины, где она отдыхала. Женщина не обратила на это внимания, подумав, что ее ужалило насекомое",* — рассказал Андрей Богдан.

Богдан напомнил, что в связи с быстрым развитием токсического эффекта большое значение при укусе змеи имеет оказание первой помощи. При условии, что на губах и в полости рта нет ранок, необходимо сразу начать энергичное высасывание яда из ранки, а извлеченную жидкость быстро сплевывать. Продолжать эту процедуру нужно в течение 15—20 минут. Установлено, что высасывание удаляет около 30% введенного в организм яда. Однако такая мера эффективна только в первые 20—30 минут. Затем следует смазать место укуса антисептиком, наложить асептическую повязку, зафиксировать травмированную часть тела в возвышенном положении. Можно дать пострадавшему обильное питье, лучше крепкий чай, но ни в коем случае не спиртные напитки, так как они ускоряют процесс всасывания и силу токсического действия яда. После оказания первой помощи пострадавшего необходимо незамедлительно доставить в ближайшее лечебное учреждение.

ПОДРОБНОСТИ

## Члена ЦИК убил сосед-наркоман?

*Подозреваемый в убийстве члена ЦИК Беларуси Светланы Хиневич, работавшей начальником отдела кадров предприятия "Кристалл", пытался покончить жизнь самоубийством. Он страдает наркотической зависимостью. Об этом сообщили в управлении Следственного комитета по Минску.*

В ходе расследования уголовного дела в совершении убийства признали подозреваемым минчанина 1978 года рождения, ранее не судимого, проживающего в одном подъезде с погибшей и являющегося наркозависимым, сообщили в столичном УСК.

Правоохранители обнаружили его по месту жительства в бессознательном состоянии — с множественными резаными ранами, сильной кровопотерей. Судя по характеру ранений, подозреваемый предпринял попытку суицида, его госпитализировали, пояснили в УСК.

О том, что убийцей Светланы Хиневич может быть ее сосед-наркоман, рассказывала знакомая члена ЦИК. Причем, подробности эти были шокирующие: "Светлана жила по улице Жуковского в Минске в обычном доме. На одной лестничной площадке с ней проживала женщина с сыном. Две женщины дружили по-соседски. Более того, эта соседка стала крестной сына Светланы. У соседки тоже был сын. Он стал наркоманом. Поэтому когда я узнала, что Светлане перерезали горло, а на ее теле было несколько десятков порезов, я подумала, что это мог сделать человек, находившийся в тот момент в каком-то невероятном состоянии.

Мои подозрения усилились, когда я узнала, что тот парень вскрыл себе вены и порезал живот".

ДАЛЁКАЕ—БЛІЗКАЕ

*Сяргей НАВУМЧЫК*

# Дзевяноста першы

## *Дземянцей: старшыня, які не хацеў быць першым*

*(Працяг. Пачатак у №61.)*

Аповед пра падзеі 1991 года, асабліва вызначальнага жніўня, будзе няпоўным без своеасаблівага палітычнага партрэта чалавека, які мусіў адыграць у іх самую прыкметную ролю. Пішу "мусіў" — таму што ён так і не выканаў тое, што ўсклалі на яго Час і Гісторыя і што ягоныя калегі ў рэспубліках Балтыі (а таксама калега ў Расіі) выканалі з гонарам.

Маю на ўвазе Мікалая Дземянцея, які да 25 жніўня быў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання.

З Мікалаем Іванавічам у Віцебску ў 1970-я гады я жыў у адным доме (віцябчане называюць гэты дом у самым цэнтры горада "сінім"). Але памятаю Мікалая Іванавіча тых часоў слаба — я быў яшчэ школьнікам, калі яго перавялі ў Мінск.

У 1990-м мы сустрэліся ў Авальнай зале Дома ўрада.

Але да сустрэчы быў яшчэ тэлефонны званок.

Увесну 1989 года пасля таго, як нашая кампанія супраць будаўніцтва АЭС пад Віцебскам скончылася поспехам, мяне вылучылі ў народныя дэпутаты СССР калектывы найбуйнейшых віцебскіх прадпрыемстваў. Але "зарубілі" на акруговым сходзе (быў такі адміністрацыйны фільтр). Канфлікт з першым сакратаром абкама Уладзімірам Грыгор'евым увайшоў у гарачую стадыю, і мне параілі пераехаць у Мінск. Генадзь Бураўкін спратэжыраваў месца ў "Вожыку", які ўзначальваў ягоны сябра, пісьменнік Уладзімір Блакіт. У часопіс мяне ўзялі, а вось месца ў інтэрнаце, не кажучы ўжо пра прапіску, здабыць не ўдалося. Па словах Блакіта, каманда "Не даваць!" сыходзіла з ЦК. Бацькаў знаёмы пасяліў мяне ў ведамасным паўпадвале на вуліцы Камсамольскай у раёне Нямігі.

У Мінску я адразу акунуўся ў вір-ванне Народнага Фронту. Неяк увосень 1989-га "інфармацыйная група" БНФ (Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Алесь Суша, яшчэ некалькі чалавек) сабраліся ў маім пакоі, каб падрыхтавацца да гадавіны ўтварэння БНР — паводле разлікаў, яна павінна была супадаць з выбарамі ў Вярхоўны Савет 12-га склікання. Я ўжо не прыгадаю, каму якія былі дадзены даручэнні, але Уладзімір Арлоў узяўся "што-небудзь напісаць". Так нарадзілася эсэ "Незалежнасць — гэта...", якое надрукавалі ў адмысловым нумары газеты "Свабода" (ён так і называўся — "Дзень Волі"). Потым яно было перакладзена на дзясяткі моў і зрабілася класікай.

Менавіта ў тую паўпадвальную кватэру вясной 1990-га, пасля ўдалай для мяне выбарчай кампаніі, я прывёў пасля вяселля жонку. А праз некалькі дзён, калі я быў у рэдакцыі, у памяшканне ўварвалася група на чале са старшынёй райвыканкама Мількотам у складзе начальніка РАУС (двое першых назваліся) і некалькіх асоб у цывільным, якія захоўвалі інкогніта. Усе здзівіліся, пабачыўшы ў памяшканні не мяне, а маладую жанчыну.

"А дзе Навумчык?" — "На працы." — "А вы хто?" — "Ягоная жонка". — "Не выдумляйце, дзевушка. Ён не жанаты".

Галя моўчкі дастала з сумкі пашпарт і разгарнула яго перад асобай у цывільным на старонцы, дзе яшчэ не высахла фарба штампа аб рэгістрацыі шлюбу.

Штамп паглядзелі ўсе па чарзе, а потым Мількота вымавіў: "Праз 48 гадзін вы павінны адсюль выселіцца".

(Праз шмат гадоў, ужо пры Лукашэнку, Мількота будзе міністрам жыллёва-камунальнай гаспадаркі.)

Галя пабегла да тэлефона-аўтамата, паведаміла мне пра візіцёраў, і я ўспрыняў гэта як адказ на моё нядаўняе выступленне ў эфіры маладзёжнай радыёперадачы з крытыкай рэфармавання сакратарыяту Вярхоўнага Савета, якую ягоны старшыня Дземянцей пачаў без узгаднення з новаабранымі дэпутатамі. Пра што я і напісаў Дземянцею. Ліст аднёс у Дом урада.

А яшчэ праз некалькі дзён дзверы ў наш кабінет у Доме друку адчыніў галоўны рэдактар (звычайна ён не хадзіў па кабінетах, а пры патрэбе выклікаў у свой). Ён быў бледны і напалоханы.

"Тэлефон! Не адыходзь ад тэлефона! Табе зараз будзе званіць Мікалай Іванавіч!" — толькі і сказаў.

Я падумаў, што нешта здарылася ў сям'і (хто такі Мікалай Іванавіч — я адразу не зразумеў).

Зазваніў тэлефон.

— Гэта Дземянцей. Сяргей Іосіфавіч, я прачытаў ваш ліст. Я першае, што сказаць хачу: я не маю ніякага дачынення да паводзінаў гэтых людзей. Вы выступілі па радыё, гэта ваша пазіцыя, вы маеце права выказаць сваю пазіцыю, а я маю права мець сваю пазіцыю. Але мы не павінны адзін аднаго за гэта абражаць. Я разбяруся, чаму яны так зрабілі, і, калі трэба, мы іх пакараем. Скажыце, яны не моцна напалохалі вашую жонку, можа, яна цяжарная, можа, ёй ужо час нараджаць?

— Ды не, Мікалай Іванавіч, вяселле было толькі некалькі дзён таму, якія ж роды. (Тут, канешне, Дземянцей выявіў куды больш жыццёвага досведу — здараецца, роды адбываюцца і да вяселля.)

Пасля гэтага Дземянцей паабяцаў даць мне кватэру, а я сказаў, што кватэры не прашу — хопіць і прапіскі ў інтэрнаце, каб не быць на паўлегальным становішчы.

Мушу сказаць, што за ўсё жыццё гэта быў першы і апошні званок да мяне кіраўніка дзяржавы з ягонай ініцыятывы і ў прыватным пытанні. І мне падаецца, што прычына тэлефанавання была не ў жаданні Дземянцея збіць крытычны імпэт з палітычнага апанента — ва ўсякім разе, не толькі ў гэтым, але і ў нейкай чалавечай спагадзе.

Значна пазней мне ў якасці адной з версій таго ўварвання ў памяшканне прывялі такое тлумачэнне: пакуль я не быў дэпутатам, КДБ праслухоўвала памяшканне (бо ў мяне часта збіраліся "франтаўцы), а ўжо з абраннем у Вярхоўны Савет чэкісты — паводле закона — страцілі права сачыць за мной, вось і вырашылі адпомсціць выкідваннем на вуліцу. Магчыма, гэта і так — адзінае, што чэкістам ніколі закон не быў пісаны і, як выявілася, праслухоўвалі яны нават Гарбачова.

Калі ў 1989 годзе Дземянцея прызначалі старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, гэта была другая (пасля першага сакратара ЦК і перад старшынёй Саўміна) пасада ў рэспубліцы. Але — другая толькі паводле статусу; рэальную ўладу меў ЦК і, часткова, Саўмін. Звычайна на гэтае месца адпраўлялі высокапастаўленых партыйных кіраўнікоў у пенсіённым веку. Не таго, хто нечым правініўся, а таго, хто вельмі заслужыў. Бо пасада была вельмі ганаровай (паводле Канстытуцыі СССР, старшыні прэзідыумаў Вярхоўных Саветаў саюзных рэспублік былі намеснікамі старшыні Вярхоўнага Савета СССР — і на Захадзе часам успрымаліся як віцэ-прэзідэнты Савецкага Саюза), і пры гэтым — не патрабавала прымаць нейкіх лёсавызначальных самастойных рашэнняў.



**Пасля службы ў войску я працаваў у віцебскай газеце і не думаў займацца палітыкай — да пэўнага моманту. Вось гэты момант: дыскусія з 1-м сакратаром абкама КПБ Уладзімірам Грыгор'евым пра недапушчальнасць будаўніцтва Віцебскай АЭС. Лістапад 1988 г.**

**Кампанію супраць будаўніцтва АЭС мы выйгралі.**

**Старшыня ВС БССР Мікалай Дзямянцей (справа) і ягоны першы намеснік Станіслаў Шушкевіч на сесіі.**



Магчыма, пры выбары кандыдатуры менавіта гэтая якасць — няздольнасць альбо нежаданне самастойна прымаць стратэгічныя рашэнні — найперш і бралася пад увагу.

Да свайго старшынёўства ў Авальнай зале Дземянцей на вяршыні сваёй партыйнай кар'еры быў сакратаром і членам Бюро ЦК КПБ — гэта значыць, уваходзіў у першую дзясятку кіраўнікоў рэспублікі. Ішоў ён да гэтага алімпу паслядоўна, не пераскокваючы ніводнай прыступкі партыйнай наменклатурнай лесвіцы — інструктар, намеснік загадчыка, загадчык сельгасаддзела абкама, першы сакратар райкама, сакратар абкама, загадчык аддзела і, нарэшце, сакратар ЦК. Але спецыфіка дзейнасці наклала пэўны адбітак на палітычны характар Мікалая Іванавіча.

Па-першае, ён займаўся сельскай гаспадаркай. Усе партыйныя пленумы і партактывы, усе выпускі навін тэлебачання і радыё, першыя палосы газет у 1960—1970-я гады распачыналіся словамі пра сяўбу, збор ураджаю, надоі малака, пагалоўе свіней і буйной рагатай жывёлы, інтэрв'ю перадавых механізатараў і даярак. Выразы "вывесці тэхніку на лінейку гатовасці" альбо "цэнтнеры з гектара" я завучыў з дзяцінства — не ўяўляючы, што яны значаць. Кіраўнікоў абласцеў і раёнаў ацэньвалі найперш па тым, колькі збожжа ў іх збіраюць і колькі малака надойваюць, ці своечасова пасеялі і ці паспелі сабраць ураджай. І толькі потым браліся ў разлік паказчыкі прамысловай вытворчасці, сацыяльнай сферы; адукацыя і культура ў гэтым ланцугу былі на апошнім месцы.

Па-другое, значны час Дземянцей займаўся сельскай гаспадаркай на Віцебшчыне — не самай прыдатнай для гэтага тэрыторыі; а вымагалі ад яе вынікаў не меншых, чым з Гродзеншчыны альбо Брэстчыны, дзе клімат і глеба былі куды больш спрыяльныя і чые кіраўнікі атрымлівалі зоркі герояў.

Па-трэцяе, за выняткам пасады першага сакратара Ушацкага райкама, Мікалай Іванавіч заўсёды быў на другіх ролях. На прыкметных, высокіх, нават вельмі высокіх, але — не на першых. І ў абкаме, і ў ЦК — над ім заўсёды быў той, хто прымаў выніковыя пастановы і патрабаваў іх выканання, той, ад каго залежала кар'ера.

Словам, Дземянцей выконваў цяжкую (паводле партыйных мерак), няўдзячную працу і пры гэтым знаходзіўся ў падпарадкаванай пазіцыі, быў залежны ад рашэнняў, а часта і капрызаў больш высокага начальніка.

Адметна, што калі Дземянцей заняў пасаду сакратара ЦК КПБ па сельскай гаспадарцы (напрыканцы 1970-х — пачатку 1980-х гадоў), сакратаром ЦК КПСС па сельскай гаспадарцы быў Міхаіл Гарбачоў. Ён фактычна быў "галіновым" шэфам Дземянцея. Я запытаўся ў былога члена бюро ЦК КПБ Уладзіміра Ганчарыка, ці магло паўплываць на прызначэнне Дземянцея старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР знаёмства з Гарбачовым. Ганчарык адказаў, што тады такія рашэнні прымалі ў рэспубліках самастойна (тым больш, што пасада была шмат у чым намінальнай). Ну а вызначальная якасць Дземянцея, якая магла паўплываць на прызначэнне, на думку Ганчарыка, паслухмянасць партыйнаму кіраўніцтву.

І калі ў ліпені 1989-га Дземянцея "паставілі на Вярхоўны Савет", гэта ў вялікай ступені адпавядала ягоным назапашаным навыкам: "цягнуць воз" і падпарадкоўвацца. Ужо было зразумела, што пасада вымагае здольнасці "трымаць удар" і страчвае "сінекурнасць", бо БНФ патрабаваў ад Вярхоўнага Савета то закона аб мове, то дэмакратычнага закона аб выбарах. Бо ўпершыню людзі пачалі цікавіцца тым, што адбываецца ў Авальнай зале. Але цяжару адказнасці не было: усё вырашалася ў ЦК, трэба было толькі акуратна выконваць устаноўкі. Уласна, гэтым Дземянцей і займаўся ўсё сваё жыццё — выконваў чужыя распараджэнні.

Сітуацыя заставалася ранейшай і пасля кастрычніка 1989-га, калі ў Канстытуцыю БССР былі ўнесеныя дадаткі і старшыня Вярхоўнага Савета быў названы вышэйшай службовай асобай БССР.

У 1990 годзе, з прарывам у Вярхоўны Савет дэпутатаў ад БНФ, становішча істотна змянілася. Ад кіраўніка Вярхоўнага Савета патрабаваліся ўжо навыкі не выканаўцы, і Дземянцею даводзілася рэагаваць на франтаўскія ініцыятывы. Гэта значыць — знаходзіць нейкія спосабы адкідваць нашы прапановы, бо для камуністаў амаль усе яны былі непрымальныя.

У маі 1990-га БНФ вылучыў дасягненне палітычнай незалежнасці Беларусі ў якасці сваёй галоўнай мэты, і мы падрыхтавалі праект Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Тэкст быў гатовы ў чэрвені, але Дземянцей і камуністы не пажадалі, нягледзячы на ўсе нашы намаганні, уключаць яго ў парадак дня сесіі. Ды раптам пра незалежнасць Расіі заявіў Ельцын (ён змагаўся з Гарбачовым за ўладу ў Крамлі) — і Гарбачоў, каб зніведяваць эфект ельцынскай ініцыятывы, даў кіраўнікам іншых Вярхоўных Саветаў каманду — дэклараваць суверэнітэт. Зразумела, толькі фармальна. Натуральна, "у рамках Саюза". Тады прыдаліся нашыя распрацоўкі — у дні, калі прымалася Дэкларацыя, дэпутаты БНФ выступілі на сесіі больш як сто разоў, хоць надаць Дэкларацыі канстытуцыйную сілу (альбо, як у той час казалі, "статус канстытуцыйнай сілы", гэта значыць, абвясціць беларускія Канстытуцыю і законы вышэйшымі за "саюзныя") парламенцкая большасць адмовілася. Паказальна, што нават у справе прыняцця Дэкларацыі Дземянцей быў вымушаны дзейнічаць пад уплывам — унутраным (дэпутаты БНФ) і знешнім (Гарбачоў).

Так вось атрымалася, што пасля прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце, у другой палове 1990-га — першай палове 1991-га, калі распад імперыі быў відавочным і трэба было дзейнічаць ініцыятыўна і рашуча, калі мы дамагаліся, каб улада ад ЦК перайшла да Вярхоўнага Савета (і яна хоць і павольна, але пераходзіла) — на чале найвышэйшага органа дзяржаўнай улады быў чалавек безыніцыятыўны, здольны, па вялікім рахунку, толькі на выкананне каманд "зверху". Няздольны нават зразумець: няма ўжо гэтага "верху", ён і ёсць гэты самы "верх".

У беларускай партыйнай наменклатуры былі дзве важкія адметнасці, якія адыгралі ў лёсе Беларусі вызначальную ролю і выразна адлюстраваліся ў асобе Дземянцея. Гэта — нацыянальны нігілізм і арыентацыя на Маскву.

Сакратары ўкраінскіх абкамаў, калі збіраліся разам, размаўлялі па-ўкраінску. Літоўскія і латышскія камуністы паміж сабой гутарылі па-літоўску і па-латышску. Беларускія камуністы размаўлялі па-расійску.

Увогуле, зразумець матывы паводзін дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га склікання, якія складалі там пераважную большасць, немагчыма без спасылкі на чалавека, які, як ніхто, паўплываў і на светапогляд, і на стыль паводзін беларускіх камуністаў — ад нізоў да найвышэйшых кіраўнікоў. Хоць на момант пачатку працы нашага Вярхоўнага Савета гэтага чалавека ўжо амаль дзесяць гадоў не было сярод жывых.

Я маю на ўвазе Пятра Машэрава. Між іншым, з усіх дэпутатаў таго склікання Дземянцей пры Машэраве займаў найвышэйшую партыйную пасаду (сакратар і член Бюро ЦК КПБ).

У сваіх успамінах генерал КДБ Анатоль Шыверскіх прыгадвае, як у 1978 годзе ў Канстытуцыю Грузінскай ССР быў уключаны артыкул пра дзяржаўнасць грузінскай мовы:

"Напярэдадні прыняцця Вярхоўным Саветам Грузіі новай рэдакцыі Канстытуцыі я прыляцеў у Тбілісі. Раніцой быў пабуджаны зычнымі дзіцячымі галасамі. Па праспекце Шата Руставэлі ішлі дзясяткі тысяч школьнікаў з плакатамі супраць забароны грузінскай мовы ў школах. Пры высвятленні абставін, хто арганізаваў правакацыйнае шэсце школьнікаў, грузінскія калегі з КДБ падзяліліся таямніцай, што школы абзвоньвалі з прыёмнай Шэварднадзэ і шэсцем кіруюць адтуль. У тым самым часе Шэварднадзэ дакладаў М.А.Суславу (*член Палітбюро, сакратар ЦК КПСС, другая асоба пасля Брэжнева.* — **С.Н.**), што шматтысячны натоўп стаіць каля будынка Вярхоўнага Савета і патрабуе запісаць у Канстытуцыю другой дзяржаўнай мовай грузінскую. Суслаў не пагаджаўся. Тры разы Э.Шэварднадзэ дакладаў Суславу, што натоўп яго не слухаецца і не разыходзіцца. Што рабіць? Толькі пасля гэтага Суслаў даў згоду запісаць дзве дзяржаўныя мовы" (Анатоль Шыверскіх, "Разрушение великой страны. Записки генерала КГБ", Смаленск, 2005).

Дык вось, нічога падобнага з Машэравым (зрэшты, і з якім заўгодна іншым першым сакратаром ЦК КПБ) уявіць немагчыма. Машэраў не выступаў публічна па-беларуску, і хацеў ён таго ці не, але ніжэйшымі партыйнымі кіраўнікамі гэта ўспрымалася як прыклад. Статус дзяржаўнай беларуская мова набыла толькі ў студзені 1990-га.

І галоўнае, што адрознівала беларускіх камуністаў ад іх літоўскіх, латышскіх ці нават украінскіх калег, — татальны нацыянальны нігілізм, у лепшым выпадку абыякавае, а звычайна — агрэсіўна-адмоўнае стаўленне да нацыянальных каштоўнасцяў, асабліва да беларускай мовы.

Вышэй я напісаў, што ў Беларусі партыйных работнікаў ацэньвалі па тым, колькі збожжа, сіласу, скаціны, птушкі ці малака ўдалося пасеяць, сабраць, выгадаваць ды надаіць. Але ў гэтым пераліку не хапае яшчэ аднаго слова, самага галоўнага — здаць. Для раённага начальства гэта азначала здаць "у вобласць", для абласнога — здаць "у рэспубліку", ну а для найвышэйшага кіраўніцтва БССР — адправіць у Маскву. Не ў адну Маскву, канешне: эшалоны ішлі таксама ў Ленінград ды іншыя гарады Расіі.

Працытую мемуары былога загадчыка аддзела культуры ЦК КПБ Алеся Петрашкевіча:

"Неяк аднойчы, калі я зайшоў з нейкім пытаннем ці па параду, ён (*Машэраў.* — **С.Н.**) апярэдзіў мяне і з ціхім сумам сказаў: "Толькі што пазваніў Грышын, член Палітбюро, і вельмі настойліва папрасіў, каб я прыслаў яму пад Новы год 9 тысяч малочных, распатрошаных парасятак, — і змоўк. А потым: — І самае гнюснае ў тым, што я пашлю яму гэтых парасятак!" І больш ні слова пра тую просьбу, а толькі да мяне: "Што ў цябе?" Гадоў праз пятнаццаць пасля гэтага былы памочнік другога сакратара ЦК КПБ ад сябе расказаў пра тых загубленых парасятак, якіх, вядома ж, адправілі ў Маскву пад нейкае свята. А я сёння думаю, чаму Пётра Міронавіч сказаў мне пра тых парасятак і што ў яго было на душы у той час? Якія яшчэ словы не зляцелі з вуснаў? Бо не толькі я ведаў пра гаспадарлівасць, беражлівасць, пачуццё ўласнай годнасці гэтага чалавека, якое было нахабна абражана магутным хамам. Парасяткі — гэта толькі дробны прыклад маскоўскага нахабства. А што да сапраўднага эканамічнага рабаўніцтва, то яно ўзмацнялася з года ў год. Прапітай метраполіі трэба было нечым закусваць. Масква патрабавала ўсё большых і большых паставак мяса, масла, каўбасаў, вяндліны, садавіны, агародніны, грыбоў, ягад і іншых прысмакаў. На поўную моц дзень і ноч працавалі заводы і фабрыкі Беларусі, каб узброіць і апрануць Савецкую Армію, якая на той час ужо ўляпалася ў вайну з Афганістанам і аказвала "інтэрнацыянальную дапамогу" цэлым кантынентам" (Алесь Петрашкевіч, "Крыніцы і каламуць", Мінск, 2008).

Можна, канешне, паспачуваць абражанаму пачуццю ўласнай годнасці, але факт застаецца фактам: нават парасятак не мог абараніць Машэраў перад кіраўніком Масквы Грышыным, якія ўжо тут несанкцыянаваныя Крамлём дадаткі ў Канстытуцыю...

Між іншым, з вялікай доляй верагоднасці можна сказаць, каму непасрэдна давялося выконваць "просьбу" маскоўскага саноўніка, — у гады, калі аўтар успамінаў узначальваў аддзел культуры, загадчыкам аддзела сельскай гаспадаркі ЦК КПБ быў Мікалай Дземянцей.

І вось гэтае выкананне прапаноў, просьбаў, загадаў з Масквы зрабілася адметнай якасцю партыйнага апарата Беларусі, увайшло ў ментальнасць кіраўнікоў, якія не тое што не маглі — ужо і не хацелі нават марыць пра самастойнасць. Ім было прасцей адправіць у Маскву чарговы эшалон мяса (якое нават у мінскіх крамах можна было набыць далёка не заўсёды), чым адчуць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі.

*(Працяг будзе.)*

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА

# Надзея на Аксану Мянькову

*Андрэй Краўчанка не спраўдзіў надзеі сваіх прыхільнікаў. Наш славуты дзесяціборац заняў толькі 12-е месца на чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы, які праходзіць у Маскве.*

| Час | Від | | Стадыя | Удзельнікі |
|---|---|---|---|---|
| **13 АВГУСТА, ВТОРНИК** | | | | |
| 8.30 | Длина | ж | семиборье | Я.Максимова, Е.Нецветаева |
| 8.35 | 20 км, сп.ходьба | ж | финал | А.Драбеня, А.Яцевич |
| 10.10 | Копье | ж | семиборье | Я.Максимова, Е.Нецветаева |
| 10.25 | Тройной | ж | квалификация | Н.Веткина |
| 18.00 | Диск | м | финал | |
| 18.35 | Шест | ж | финал | |
| 19.10 | 800 метров | ж | семиборье | Я.Максимова, Е.Нецветаева |
| 20.10 | 800 метров | м | финал | А.Ананенко |
| 20.25 | 3000 метров с/п | ж | финал | |
| 20.50 | 400 метров | м | финал | |
| **14 АВГУСТА, СРЕДА** | | | | |
| 7.30 | 50 км, сп.ходьба | м | финал | И.Троцкий |
| 8.30 | Молот | ж | квалификация | О.Менькова |
| **15 АВГУСТА, ЧЕТВЕРГ** | | | | |
| 8.30 | Копье | м | квалификация | В.Козлов |
| 8.55 | 800 метров | ж | 1 круг | М.Арзамасова |
| 9.20 | Ядро | м | квалификация | П.Лыжин |
| 18.00 | Высота | м | финал | |
| 18.40 | Тройной | ж | финал | Н.Веткина |
| 19.20 | 3000 метров с/п | м | финал | |
| 19.45 | 400 метров с/б | ж | финал | |
| 20.00 | 400 метров с/б | м | финал | |
| 20.20 | 1500 метров | ж | финал | |
| **16 АВГУСТА, ПЯТНИЦА** | | | | |
| 8.45 | 100 метров с/б | ж | 1 круг | А.Талай |
| 10.30 | 4х400 метров | ж | 1 круг | сборная Беларуси |
| 18.00 | Молот | ж | финал | О.Менькова |
| 18.30 | Длина | м | финал | |
| 18.40 | 200 метров | м | полуфинал | |
| 19.10 | Ядро | м | финал | П.Лыжин |
| 19.15 | 800 метров | ж | полуфинал | М.Арзамасова |
| 19.45 | 5000 метров | м | финал | |
| 20.15 | 200 метров | ж | финал | |
| 20.30 | 4х400 метров | м | финал | |
| **17 АВГУСТА, СУББОТА** | | | | |
| 14.30 | Марафон | м | финал | |
| 17.00 | Высота | ж | финал | |
| 17.20 | 100 метров с/б | ж | полуфинал | А.Талай |
| 17.35 | Копье | м | финал | В.Козлов |
| 17.55 | 5000 метров | ж | финал | |
| 18.30 | 100 метров с/б | ж | финал | А.Талай |
| 18.45 | 4х400 метров | ж | финал | сборная Беларуси |
| 19.05 | 200 метров | м | финал | У.Болт |
| **18 АВГУСТА, ВОСКРЕСЕНЬЕ** | | | | |
| 15.00 | Копье | ж | финал | |
| 15.45 | Тройной | м | финал | |
| 16.25 | 1500 метров | м | финал | |
| 16.50 | 800 метров | ж | финал | М.Арзамасова |
| 17.10 | 4х100 метров | ж | финал | |
| 17.40 | 4х100 метров | м | финал | |

***ПРИМЕЧАНИЕ.*** *Время начала соревнований — белорусское.*



У расійскую сталіцу накіраваліся 27 беларускіх лёгкаатлетаў — 10 мужчын і 17 жанчын. Напярэдадні спаборніцтваў галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы Аляксандр Трашчыла ў адным са сваіх інтэрв'ю сказаў, што вялікім поспехам беларускай лёгкай атлетыкі стане пападанне на п'едэстал Аксаны Мяньковай і Андрэя Краўчанкі. На Алімпійскіх гульнях у 2008 годзе Мянькова кінула молат на залаты медаль, а Андрэй Краўчанка заваяваў сярэбраны медаль.

На жаль, у Маскве ў Андрэя не атрымалася выйграць медаль, ён стаў толькі дванаццатым. Выступіў быццам бы і няблага, але ж балельшчыкам хацелася лепшага выніку.

Парадавала Вольга Сударава. Яна стала чацвёртай у скачках у даўжыню. Пакуль гэта лепшы вынік беларускіх лёгкаатлетаў на чэмпіянаце свету. Праўда, учора ўвечары сталі вядомы чэмпіёны і прызёры ў штурханні ядра ў жанчын, дзе выступіла наша спартсменка Алена Копец, а таксама ў кіданні молата ў мужчын з удзелам беларуса — маладога спартсмена Юрыя Шаюнова. У фінал яны выйшлі з нялепшымі вынікамі, але якіх толькі цудаў не бывае на чэмпіянатах свету *(калі вярстаўся нумар, пра гэтыя вынікі яшчэ не было вядома)*.

Што тычыцца нашай надзеі на медаль — Аксаны Мяньковай, то ў барацьбу яна ўступіць у сераду, калі пачнецца кваліфікацыя. Фінал жаночага кідання молата пройдзе ў чацвер.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

К СЛОВУ

## Болеем за наших

Чемпионат мира продолжится до воскресенья. Какие еще соревнования можно посмотреть? *(См. расписание соревнований слева.)*

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Деньгами в спорте можно и навредить



*В рамках проекта "Европейский диалог о модернизации для Беларуси" мы беседуем с главным редактором газеты "Прессбол" **Владимиром Бережковым** о том, какие перемены нужны белорусскому спорту.*

*Владимир Бережков — фигура без преувеличения легендарная. Трудно даже подсчитать, сколько руководителей белорусского спорта сменилось за то время, пока Бережков возглавляет самую популярную спортивную газету страны. И все это время он остается одним из самых авторитетных специалистов в этой сфере.*

**— Нужны ли белорусскому спорту реформы, или это не совсем то слово, которое стоит употреблять, когда мы рассуждаем о переменах в спортивной отрасли?**

— Часто говорят, что спорт — вне политики, но внутри экономики. А поскольку сегодня многие заявляют прямо противоположное, что спорт и есть политика, то ему на роду написано быть связанным и с политикой, и с экономикой. Какая модель экономики используется государством, таким будет и спорт. У нас экономика государственного регулирования с элементами рынка. Так и белорусский спорт — местами рынок, но в основном — государственное регулирование.

Поэтому главная реформа, которая здесь нужна, — навести порядок именно в этом регулировании. Я имею в виду, что должен быть реальный центр в лице Министерства спорта, которое у нас иногда "стесняется" побеспокоить того или иного председателя федерации с большими административными полномочиями. Чиновник из Министерства спорта понимает: если он затронет серьезного начальника, который совмещает общественные и государственные должности, то ему не поздоровится. А всех остальных бить можно. В этом и заключается одно из серьезных противоречий и нестыковок в системе управления белорусского спорта.

**— Принято считать, что деньги решают все. Этот вроде бы универсальный тезис, как оказывается, не работает в белорусском спорте. Например, в нашем хоккее в последние годы — чем больше денег, тем меньше успехов. Как это можно объяснить?**

— Без денег чего-то добиться в спорте очень сложно. Но и одними деньгами тоже невозможно. Более того, финансами можно навредить, если они используются нерационально и не по назначению. Хоккей тут действительно яркий пример. На рубеже веков туда пришли большие деньги, и правили они, а не люди и технологии. В результате многие специалисты были вынуждены уйти. А Министерство спорта не могло ничего возразить, ведь хоккеем управлял целый министр внутренних дел. Кто пойдет против него, завтра ненароком может оказаться за решеткой.

Хоккеем начали управлять деньгами и административным ресурсом. И в результате минское "Динамо" стало неподконтрольным жерлом, куда скидывались колоссальные ресурсы. Сегодня, я надеюсь, ситуация исправляется — мне кажется, тут еще не все до конца запущено.

**— Что более важно: спорт высших достижений или массовый спорт, для здоровья граждан? Логика подсказывает: здоровье людей должно быть на первом месте, но государство всеми своими действиями показывает: медали на Олимпиадах ему важнее…**

— Массовый спорт и спорт высших достижений — совершенно разные вещи. Сегодня идет реформа и сокращение государственного аппарата. Она уже ударила по местным спортуправлениям, в районах сокращаются должности спортивных руководителей (эти вопросы отдали в отделы образования), мне кажется, ни к чему хорошему это не приведет.

Для того чтобы готовить спортсменов высших достижений, нужны совершенно особые методологии, подходы и средства. Нельзя смешивать массовый спорт и подготовку чемпионов.

**— Ваша газета "Прессбол" немало пишет о коррупции в белорусском спорте. Можно ли сказать, что это явление подрывает перспективы и успехи белорусского спорта?**

— Коррупцию в спорте полностью победить невозможно. Коррупция в ее мелких проявлениях (зачисление по блату в команды своих знакомых и родственников, мелкое воровство суточных и т.д.) обрела массовый характер. Но в то же время есть гораздо более серьезные вещи, наверху процветает, так сказать, узаконенная коррупция.

Недавно вышел указ о государственной поддержке спорта, и там четко прописано, что за средства, которые направляются на развитие спорта государственными предприятиями, не нужно отчитываться. И некоторые крупные чиновники, руководящие федерациями, сегодня умудряются за счет хитростей налогообложения уводить эти суммы, изымать из налогового оборота как чисто спонсорские деньги. И они выводятся из бюджетного оборота.

Нужно установить порядок, создать четкую систему управления спортом. Чтобы и внизу, и наверху были люди, имеющие всю полноту власти. А пока — "этого можем трогать, а этот слишком крупный для нас"... Такие двойные стандарты убивают наш спорт.

**Виталий ОСИПОВИЧ.**

НА ЗАМЕТКУ

## Спрэчкі падаўжаюць жыццё

Кажуць, што ў спрэчках нараджаецца ісціна. Але, аказваецца, спрачацца час ад часу карысна яшчэ і таму, што гэта можа падоўжыць жыццё. На думку амерыканскіх псіхолагаў, пастаянна хаваць сваё раздражненне не трэба, асабліва мужу і жонцы, калі яны хочуць жыць доўга.

Калі яны не хаваюць свайго незадавальнення і адразу выражаюць канфлікты, працягласць жыцця павялічваецца. Аднак іншым разам чалавек заглушае свой гнеў, хавае раздражненне, не імкнецца знайсці выйсця са складанай сітуацыі, надоўга затойвае крыўду. У такім выпадку самымі распаўсюджанымі прычынамі смерці становяцца сардэчныя і анкалагічныя захворванні.

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## Чаму нельга адмаўляцца ад свінога сала?

*Калі спажываць свіное сала ў разумнай колькасці, то атэрасклерозу можна не баяцца. Асабліва калі есці сала з салатай з сырой агародніны, запраўленай нерафінаваным сланечнікавым алеем і натуральным воцатам (яблычным або вінаградным).*

Свіное сала ўтрымлівае арахідонавую кіслату, якая адносіцца да ненасычаных тлушчаў і з'яўляецца адной з незаменных тлустых кіслот. Яна ўваходзіць у склад клетачных мембран, з'яўляецца часткай ферменту сардэчнай цягліцы, а таксама ўдзельнічае і ў халестэрынавым абмене. Дэфіцыт гэтай кіслаты ў арганізме жанчыны прыводзіць да ўзмацнення праяў цэлюліту. У сале ёсць і іншыя каштоўныя незаменныя тлустыя кіслоты. Прычым па іх колькасці сала апярэджвае масла.

Свіное сала ў народнай медыцыне ўжываюць пры болях у суставах, парушэнні рухомасці суставаў пасля траўмы, пры мастыце, экзэме, зубным болі, пятачнай шпоры і іншых хваробах.



МЕДДАВЕДКА

## Дыета супраць варыкозу

* Выключыце тлустае, салодкае, мучное — кожны лішні кілаграм кладзецца дадатковым бярэмем на вянозную сістэму.

* Пад забаронай наварыстыя мясныя булёны, халадзец, вяндліна, марынады, кансервы (гэтыя прадукты пагаршаюць стан сценак вен і іх клапанаў), а таксама алкаголь, піва і кава (не больш за кубачак у дзень, лепш з малаком).

* Піце 1,5—2 літры вадкасці ў суткі: калі ў арганізм паступае мала вады, кроў робіцца вязкай, што ўскладняе яе прасоўванне па венах.

* Уключыце ў рацыён крыніцы вітамінаў Е і С, якія надаюць венам эластычнасць: зялёны чай, абляпіху, гарох, фасолю, сачавіцу, памідоры, салату, зялёную цыбулю, пячонку, яечны жаўток

* Карысныя фруктовыя дэсерты і напоі, што ўтрымліваюць вітамін Р (руцін): ён не дазваляе расцягвацца сценкам вен — умацоўвае капіляры. На яго багатыя шыпшына, цытрусавыя, чарнаплодная рабіна, чорныя парэчкі, абрыкосы.

* Налягайце на агародніну, садавіну, вотруб'е.

ШАШКІ

## Адборачны да першынства свету

Адбыўся турнір па шашках-64. Чэмпіёнам рэспублікі стаў міжнародны майстар Ігар Міхальчанка (Ваўкавыск), сярэбраным і бронзавым прызёрамі — міжнародныя гросмайстры з Мінска Андрэй Валюк і Аркадзь Плакхін. Апошні 51 раз удзельнічаў у гэтых спаборніцтвах і заваяваў 15 залатых медалёў.

Раней сваю вышэйшую лігу правілі жанчыны. У ёй перамаглі Вера Хвашчынская (Бабруйск), Дар'я Федаровіч (Мінск) і Анастасія Стасючонак (Віцебск).

Прыемна дадаць, што раней высокія званні атрымалі: Яўген Кандрачэнка з Гомеля — міжнароднага гросмайстра, Анастасія Барышава з Мінска і Вера Хвашчынская — міжнародных майстроў, Віталь Аніська (Слонім) і мінчанін Аляксей Куніца — майстра ФМЖД.

Раім разгледзець сітуацыю, поўную цікавасці:

**Белыя** (С.Садоўскі): a5, a7, b6, c5, d2, f2, g1 (7). **Чорныя** (М.Кадзеснікаў): b8, c7, d8, e5, g5, h2, h4 (7). На 1.cd6? быў падрыхтаваны кінжальны ўдар. Пераканайцеся ў гэтым самастойна.

## Заслугоўваюць увагі

Мы ўжо інфармавалі, што дзякуючы сайтам старадаўняй гульні нашу рубрыку ведае шырокае кола замежных майстроў шашачнай кампазіцыі. З творчасцю некаторых з іх вы ўжо пазнаёміліся. Расійскі гросмайстар Юрый Голікаў пажадаў яшчэ раз выступіць у ёй. Яго новыя творы таксама заслугоўваюць увагі:

1. **Белыя**: b2, b4, c1, e3, f4, f6, h6 (7). **Чорныя**: a3, b6, b8, c5, c7, d6, d8, h8 (8).



1.fe5 2. c:e3 a:e7 3. b:f8 ba5 4. fa3 ba7 5. af8 ab6 6. fa3 bc5 7. a:b8 ab4 8. be5 dc7 9. e:b8 bc3 10. bf4 cb2 (10...hg7 11. h:f8 cb2 12. fg7x) 11. fe5 bc1 (11...ba1 12. ef6 a:g7 13. h:f8 hg7 14. f:h6x) 12. ef4 c:g5 13. h:f4 hg7 14. fg5x.

2.**Белыя**: c7, d6, дамка e3 (3). **Чорныя**: a5, c3, h4 (3).

1. cb8 cb2 (1...ab4 2. ed4 c:c7 3. b:a3 hg3 4. ac5x) 2. ed4 bc1 (2...hg3 3. d:a1 gf2 4. ad4x) 3. de3 c:c7 4. b:d6x.

3.**Белыя**: c7, h2 (2). **Чорныя**: f4, g7, h4 (3). Нічыя: 1. hg3 f:h2 (1...h:f2 2. cb8=) 2. cb8 gf6 3. bd6=.

4.**Белыя**: b2, c1, d2, f4, g3, g5 (6). Чорныя: a3, a5, b4, d6, e5, g7, h2, h8 (8).

1. dc3 2. c:e3 3. ed4 4. gh6 5. h:h6x.

5.**Белыя**: b2, c1, c3, c5, d4, f2, g1, h4 (8). **Чорныя**: a3, a5, a7, b8, c7, e7, h6 (7). Пашукайце камбінацыю самі.

## Рашаем разам

**"Варта ўзяць на заметку"** (з аналізу В.Ягорава): — 1...hg5! 2. f:h6 fe5 3. hg5! ed4 4. c:e5 a:c3 5. b:d4 d:d2 6. fe3 d:f4 7. g:e3 cd6 8. ab2 і тут знянацку 8...fg7! 9. h:f8 de5! =.

**Мікалай ГЛАДКІ.**

З НАТУРЫ

# Бусел Паша



Мой брат Васіль у дзяцінстве вельмі любіў братоў нашых меншых. Заўсёды падбіраў і выхоўваў сабак, катоў, птушак, што трапілі ў бяду. У час вайны, калі ён служыў у арміі, хтосьці з салдат падабраў невялікага бусліка з перабітым крылом. Яму далі імя Паша.

Птушка пасябравала з Васілём, які яго карміў, даглядаў. Час ад часу салдаты прыносілі бусліку далікатэсны корм — балотную жабку.

Паша хутка вырас у дарослага бусла. Ноччу Паша не расставаўся са сваім сябрам, нёс начную варту з Васілём. Бусліка любілі ўсе ў часці, нават высокае начальства.

Але з надыходам вясны, калі з выраю вярталіся буслы, Паша, убачыўшы суродзічаў, пачуўшы знаёмы буслiны клёкат, развінуў свае шырокія крылы, падняўся высока ў неба, зрабіў развітальны круг над вайсковай часцю, нібы дзякуючы за зімовы прытулак людзям, што выхадзілі яго, не далі загінуць у зімовы час, і паляцеў за клінам буслоў.

**Анатоль ШАРАЕЎ.**

*г.Фаніпаль.*



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл. (017) 3286871. Тэл./факс рэкламнага аддзела: (017) 3286904, 3286906
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

ISSN 2071-9647

**Падпісныя індэксы: 63222, 632222**

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.08.2013 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 26400 экз. Заказ №3400.